
Бежанства – гісторыя людзей ➔4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


З хутара побач Войшак ➔9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 27 (3243) Год LXIII Беласток, 8 ліпеня 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)





# Мы мяняем «БАСы»!

Размова з **Лідкай Пякарскай** — арганізатаркай сёлетняга Фестывалю музыкі маладой Беларусі «Басовішча», называнага ў моладзевым асяроддзі «БАСамі».

**Уля Шубзда: — Няцэлыя тры тыдні засталіся да «БАСаў». Гэта для вас час напругі, цяжкай працы, апошніх рашэнняў?**

**Лідка Пякарская**: — Як заўсёды праблема такая самая — многа стрэсу ў сувязі са справай з Міністэрствам унутраных спраў і адміністрацыі, якое дало нам менш грошай, чым абяцала. Спачатку міністэрства абяцала нам многа-многа больш. Мы крыху адчуваем сябе ашуканымі. Нам параілі падаць заяву ў траўні, што нібыта мела быць гарантам больпых фінансаў. Так, маем многа працы, але большасць ужо зроблена. Зараз чакаем апошняга тыдня, калі паедзем у Барык і пачнем супольна працаваць.

**— Разумею, што грошы рэгулююць праграму фестывалю. Наколькі вам прыйшлося памяняць планы?**

— Так, гэта мела вялікі ўплыў. Нават не хочацца гаварыць, каго мы планавалі запрасіць. Цяжка арганізаваць фестываль, развівацца, калі з году ў год фінансаванне не пабольшваецца, а наадварот, змяншаецца. Напэўна і людзі чакаюць больш і мы самі таксама. Не ўсё залежыць ад нас. Мне падабаецца сёлетняя праграма, але калі б мы мелі больш грошай, напэўна маглі б яе крыху памяняць.

**— Грошы паўплываюць у нейкай ступені на праграму, але ўсё такі вы — маладыя арганізатары. Вы фармуеце, ствараеце «БАСы», якія адрозніваюцца ад тых 5-10-гадовай даўнасці. Наколькі на Тваю думку?**

— «БАСы» зараз выглядаюць зусім інакш, чым дзесяць гадоў таму. І гэта таксама не ўсім падабаецца. Многія кажуць, што фестываль ужо не такі, няма так многа цяжкай музыкі. Але музыка мяняецца. Беларуская таксама, што было відаць на «Адборышчы» ў Мінску. Там на восем гуртоў ніводзін не меў перкусіі, не іграў цяжкага рока. Было многа гуртоў, якія ігралі электронную музыку. Гэта таксама фестываль маладой Беларусі. Файна пачуць рок-музыку, але гэта ўжо музыка, якую рэдка слухаюць маладыя людзі. Мы таксама хочам нешта мяняць.

**— Што хочаце даказаць?**

— Мы хочам паказаць музыку, якую мы слухаем. Трыццаць гадоў таму музыка была іншая, інакш выглядала беларуская музычная сцэна. Тады ўсе гурты былі забаронены на Беларусі. Нават пяць гадоў таму Вольскі не мог выступаць на Беларусі, а цяпер можа. Іншая атмасфера ўжо на «БАСах». Многія кажуць, што няма ўжо бел-чырвона-белых сцягоў. Гэта праўда. Мне таксама іх не хапае. З другога боку яны ўжо не так забараняюцца ў Беларусі. Таму, відома, зараз «БАСы» выглядаюць інакш, аднак кожная змена абазначае нешта добрае. Кожныя «БАСы» — іншыя.



**— Вядома, што «Басовішча» суправаджаюць розныя мерапрыемствы. Што сёлета, апрача добрай музыкі, чакае ўдзельнікаў фестывалю?**

— Тут таксама такая праблема, што паколькі маем меншае фінансаванне, цяжэй нам арганізаваць нешта больш. Вядома, што канцэрты для нас самыя важныя. Кожны дзень фестывалю будзе канчацца сэтам ды-джэяў. У суботу адбудуцца падзеі для дзяцей. Ася Троц (Тэатр «Чрэва») будзе чытаць казкі па-свойму. Наогул будзе шмат атракцыёнаў для дзяцей у суботу. Вядома, на фестываль часта прыязджаюць цэлыя сем'і, таму хочам, каб наймалодшыя таксама мелі нейкія атракцыёны. На «БАСмежжы» будзе канцэрт гурта «Блакітны насарог» — легенды панк-рока. Гэты гурт старэйшы за мяне (*смех*). Таксама на «БАСмежжы» будуць розныя крамы.

**— Як выглядае справа з бясплатнымі візамі для ўдзельнікаў з Беларусі?**

— Амбасады спачатку нам гаварылі, што будуць цалкам дармовыя візы. Пазней зрабілі неспадзяванку і дарма будуць толькі людзям да 25 года жыцця. Гэта і так добра. З Берасця папрасілі нас, каб падаць спісак людзей ахвотных прыехаць на фестваль і абяцалі, што тады яны нешта афармяць. Аднак сваю заяўку даслалі нам дзве ці тры асобы. Людзі абвінавачваюць нас у тым, што мы нічога не робім, каб афармяць візы. Тым часам, калі зараз такая магчымасць ёсць, людзі не падаюць заявак. Мы зрабілі ўсё, што маглі. Марына Калеснікава нам тут вельмі многа дапамагла. Мы б хацелі, каб усе атрымалі дармовыя візы, але, на жаль, такога ўплыву на консула не маем. Фестываль амаль нічога не каштуе. Разлічваем, што фанатам беларускай музыкі не будзе шкада прысвяціць грошы на візу.

**— Арганізуеце адно з самых важных мерапрыемстваў, якое адбываецца на Падляшшы. Так як Ты ўжо сказала, вы яго мяняеце. Якія эмоцыі спадарожнічаюць падрыхтоўцы да фестывалю?**

— Гэта велізарны гонар. Вядома, многа пры гэтым стрэсу, але таксама вучымся з сабою супрацоўнічаць. Нават часам сварымся пра фестывальныя справы, але ў такі спосаб, каб гэта адмоўна не паўплывала на наша сяброўства. Мы ўжо чакаем двух дзён фестывалю, каб проста пабачыць гэта, на што мы працавалі цэлы год. Заўсёды вельмі добра пачуць цёплыя словы ад людзей, якія разумеюць колькі нас гэта каштуе. Мы проста студэнты, якія вучацца, дзесьці працуюць. Мы не прафесіяналы. Калі ў Варшаве скажу пра «БАСы» людзям, якія ніколі пра наш фестываль не чулі, бачу захапленне. На маю думку фестываль — важная справа. Прынялі мяне на працу між іншым таму, што я арганізую фестываль. Ім гэта вельмі імпанавала. Работадаўцы палічылі, што паколькі я ў свае 23 гады раблю такія мерапрыемствы, то варта мне паверыць.

**— Рыхтуемся да 29-х «БАСаў». Ці думаеце ўжо пра юбілейны трыццаты выпуск фестывалю ў наступным годзе?**

— Думаем. І ўжо мяне стрэсуе сама думка пра гэта (*смех*). Напэўна добрай думкай будзе наладжанне супрацоўніцтва з былымі арганізатарамі «БАСаў». Гэта будзе не толькі наш юбілей, але і ўсіх шматгадовых арганізатараў. Такім спосабам мы хочам завязаць супрацоўніцтва між пакаленнямі. Але яшчэ будзем пра гэта думаць. Спачатку хочам адсвяткаваць 29-ы выпуск, адпачыць прынамсі тыдзень і думаць пра наступны.

**— Якіх «БАСаў» сабе жадаем?**

— Паспяховых (*смех*).

**— Дзякую за размову!**

Уля ШУБЗДА





# Мундыяль і прынцыпы

У таталітарных краінах спартыўныя спаборніцтвы служылі заўсёды адной мэце — паказаць у розны спосаб прывабнасць таго ці іншага рэжыму. Прыкладам у Савецкім Саюзе такім сродкам быў хакей. На яго былі кінуты ўсе сілы, шалёныя па тых часах матэрыяльныя рэсурсы і самыя таленавітыя прапагандысты. Савецкі хакей быў мацнейшым у свеце, ці адным з двух самых мацнейшых, што дазваляла грамадзянам адной шостай часткі планеты перажываць гонар, узлым патрыятызму і ўпэўнена глядзець у будучыню. І нічога, што ў гэты час паліцы крамаў былі пустыя, а ў прыбіральню людзі хадзілі з тымі самымі газетамі, што славілі савецкіх касманаўтаў і хакеістаў. Бо туалетнай паперы папросту не было, савецкая эканоміка была не ў стане наладзіць яе вытворчасць. Як і не было шмат чаго іншага, да чаго даўно звыклася насельніцтва на „загніваючым" Захадзе.

Маім першым чэмпіянатам свету па футболе, які я аглядаў ужо досыць асэнсавана, было першынства планеты 1978 года, якое праходзіла ў Аргенціне. Добра памятаю свае шчырае дзіцячае захапленне ля тэлевізійнага экрана. Увесь „цывілізаваны свет" праводзіў гэты чэмпіянат у рамантычнай, здавалася б, „сярэбранай" краіне. А ў гэты час у Аргенціне панаваў жудасны тэрор. Соткі людзей, уся „віна" якіх заключалася толькі ў іншадумстве, жыўцом скідвалі з самалётаў у акіян, расстрэльвалі без суда і следства ў засценках. Мы, праўда, тады пра гэта не ведалі. А ўвесь „цывілізаваны свет" ведаў і вітаў гаспадароў-чэмпіёнаў. Гэта ўжо пасля аргенцінская хунта пацярпела паразу ад Вялікабрытаніі ў кароткай вайне за Фалклендскія выспы. Маргарэт Тэтчар імкліва паставіла ўсё на месцы. Дзякуючы найперш „жалезнай лэдзі" быў спынены свінцовы дождж у „срэбнай" краіне — аргенцінскі народ схамянуўся і дыктатура хутка рассыпалася.

Прайшло 40 гадоў і зноў футбольны чэмпіянат праводзіцца ў дзяржаве-агрэсары, дзе пануе аўтарытарны рэжым. Можа, пакуль не такі крывавы знешне, як некалі ў Аргенціне, але па сутнасці і прыродзе — аналагічны. Для мілітарнай гэбісцкай Расеі кожны такі спартовы форум — гэта як вайна, на якой трэба перамагчы кожнай цаной. Што алімпіяда ў Сочы, што цяперашні мундыяль. Бо каму — футбольны фестываль, а каму — вайна і доказы перавагі сваёй „расы". У прынцыпе — нічога новага. Можна прыпомніць і берлінскую гітлераўскую алімпіяду 1936 года і вышэйзгаданы аргенцінскі чэмпіянат.

А мы цяпер ведаем, які рэжым пануе ў Расеі, але ўсё роўна, разявіўшы рот, глядзім гэтыя гульні. Прызнаюся і каюся, што асабіста маёй прынцыповасці хапіла толькі на тое, каб асабіста не паехаць у адзін з расейскіх гарадоў на пару матчаў. З аднаго боку, можа і добра, што чэмпіянат праходзіць у Расеі, бо гэта наталяе імперскія амбіцыі Масквы і задавальняе самалюбства крамлёўскіх уладароў. А значыць часова стрымлівае яе агрэсію ў дачыненні да сваіх слабейшых суседзяў. Але трэба ўсведамляць, што гэта толькі часовая перадышка і што сваіх заваёўніцкіх планаў на іншых палях і прасторах гэтая дзяржава не можа змяніць паводле сваёй прыроды.

Між тым на гэтым чэмпіянаце адбываюцца надзвычай падазроныя рэчы — спярша патрэбнае лёсаванне для Расеі ў групе, потым поўная падатлівасць дзвюх арабскіх каманд у гульнях з расейцамі, цяпер вось дзіўная інфантыльнасць іспанскай дружыны ў сустрэчы з імі і як вынік сенсацыйная перамога гаспадароў першынства. Мы, аматары футбола са стажам, добра памятаем і некалькі дагаворных купленых матчаў чэмпіянату 1982 года (праўда пра іх усплыла на паверхню пазней) і надзвычай дзіўны азіяцкі мундыяль 2002 года, калі каманду гаспадароў-карэйцаў арбітры дацягнулі ажно да паўфіналу. Ведаем таксама, што гэта за структура ФІФА і якія ў яе дачыненні з расейскай дзяржавай. Хай сабе не ведаем дэталяў, але цудоўна разумеем сутнасць іхных карупцыйных схем і адносін. Але ўсё роўна глядзім гэты футбол і здзіўляемся, глядзім і перажываем. У некаторай ступені нас апраўдвае любоў да фантастычна цікавай гульні, што прыдумала чалавецтва. Але толькі ў нейкай ступені...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Я – нумар 189

Быццам бы лік 25 не меў у сябе нічога з магічнага ліку 13. Акрамя таго, ён з'яўляецца матэматычна трывіяльным. Прыгожа дзеліцца на 5 і сам праз сабе. І гэта ўсё. Але калі яго раздзяліць на паасобныя кампаненты і прасумаваць іх, а затым 2 і 5 дае 7 — для многіх людзей гэты лік відавочна шчаслівы. Толькі што 25 гэта не 7. Трэба крыху намаганняў, каб выявіць у ім сцвярджальны аспект. І хай толькі сцвярджальны. Гэта таму, што ён утрымлівае ў сабе злавеснае адценне, аб чым пераконваюць нядаўнія даследаванні над паводзінамі чалавека. Пра іх ніжэй. У гэтым месцы дазвольце мне толькі заклікаць, каб паставіцца да яго з належнай павагай. Аказваецца, што ён усталёўвае ліміт здольнасці чалавечага мозгу ў розных важных галінах яго дзейнасці. Зыходзячы з любімых і часта наведваных ім месцаў, да ліку бягучых грамадскіх адносін, якія ён здольны падтрымліваць — заўсёды яны абмежаваныя да 25. Такім чынам, наша жыццё адлюстроўваецца ў адпаведнасці з формулай, паводле якой мы хацелі б глядзець тыя фільмы, якія ўжо мы бачылі раней, наведваць гэтыя кафэ і іншыя месцы, дзе былі раней, нарэшце, тусавацца з тымі ж сябрамі, і не дай Бог, калі ўцісняць паміж іх незнаёмца. Чужы, ці хтосьці непрызнаны, хутчэй за ўсё, вораг. І калі не вораг, колькі ж трэба намаганняў, каб зрабіць яго нашым сябрам! Такія недаверлівыя, або больш кансерватыўныя паводзіны тычацца кожнага дарослага чалавека, хаця пры пытанні бежанцаў можа было б падумаць, што члены ПіС цалкам асляплены лікам 25. І гэта прыклад яго злавеснасці. У сувязі з тым сцвярджэнне, што чалавек па прыродзе з'яўляецца істотай свабоднай, незалежнай (хіба што калі свядома ці несвядома ён згодны на псіхічнае або фізічнае абмежаванне), уяўляецца вельмі спрэчным. Ці асабістая свабода, якую сабе ўзурпуе чалавек, была б звычайнай нязбытнай марай? Хіба, што наш мозг трымае нас на прывязі ліку 25, як праславуты закаваны ланцуг, хоць у Польшчы дэ-факта паўсюдна, без сэрца і без пакарання зняволенага ім цюцькі?

Не выклікае сумненняў тое, што ў дадзены момант людзі ў сваім жыцці наведваюць не больш чым 25 месцаў. Гэта зусім не азначае, што яны прывязаны да тых жа кропак прасторы, бо той няшчасны цюцька да сваёй пажыццёвай будкі. Зусім наадварот — пранікаюць ва ўсе новыя месцы. Тым не менш, у той час іх колькасць пастаянная. Калі ў цяперашні час розум касуе нейкае месца, ён адкрывае перад сабой іншае, падобнае ці зусім непадобнае. Гэта адносіцца да розумаў у гарадах, як і ў вёсках — да міністэрскіх чыноўнікаў, студэнтаў, працоўных і сялян. У любы момант колькасць рэгулярна наведваных месцаў гэта 25.

Гэтыя высновы з'яўляюцца вынікам спалучаных даследаванняў чалавечых паводзін, праведзеных навукоўцамі з Лонданскага ўніверсітэта і Дацкага тэхнічнага ўніверсітэта ў Капенгагене. Яны прааналізавалі звычкі амаль 40 тысяч чалавек. Сапраўды ўражвае лік апытаных людзей усіх узростаў, сацыяльнага статусу і розных культур. У кожным выпадку бягучая актыўнасць зачыненая ў ліку 25 месцаў любімых або вымушаных жыццём. «Людзі пастаянна спрабуюць знайсці баланс паміж сваёй цікаўнасцю да новых рэчаў, і лянотай, — тлумачыць гэтую з'яву адзін з вучоных. — Мы хочам выбрацца да новых месцаў, але ў той жа час хочам наведваць старыя, якія нам падабаюцца. (...) Мы выявілі, што гэтая дынаміка мае дзіўную асаблівасць. Мы наведваем пастаянную колькасць месцаў, і гэта не мае нічога агульнага з недахопам часу». Даследчык падкрэсліў, што ў ліку 25 ляжыць іншы ўзровень чалавечых паводзін. «Мы знайшлі доказы таго, што гэта звязана з іншымі абмежаваннямі ў жыцці, такімі, як, напрыклад, колькасць актыўнага сацыяльнага ўзаемадзеяння, якое мы можам вытрымаць. Тым не менш, неабходны дадатковыя даследаванні, каб пераканацца ў гэтым».

Даследаванні па гэтым пытанні трэба працягваць, нават калі сёння мы ведаем, што наш мозг не ў стане падтрымліваць блізкасць з празмерным лікам людзей. Іду ў заклад на лік 25. Чым бліжэй канца гэтай крайняй вартасці, тым больш мы павінны ўкласці разумова энергіі для падтрымання ўзаемадзеяння. Гэта адносіцца да сваякоў і да любых асоб, якіх нумар тэлефона мы запісалі. Таксама да фрэндаў на фейсбуку. Некаторыя налічваюць іх тысячы! Я дазволіў сабе апошні раз зірнуць на свой фейсбучны спіс, які налічвае больш за 200 сяброў. Палову з іх, без шкоды для каго-небудзь, не цалкам асацыюю. Я — нумар 189.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Стрэс, страх і... бяда

Напісаныя тыдзень назад словы пра самагубства сярод падлеткаў выклікалі ў мяне самога многа пытанняў і рэфлексіі над нашым жыццём. Траўматычным болем адазваўся ўспамін аб самагубнай смерці роднага брата маёй мамы, якому было тады толькі пяцьдзясят гадоў. Памятаю як гэтая трагедыя балючым ударам увайшла ў маміну душу і сэрца і паклалася ценем на нашу сямейную памяць. Вобраз дзелавітага і жыццярадаснага дзядзькі стаіць і сёння перад маімі вачыма, з якім ужо, на жаль, прыходзіцца сустракацца толькі над яго магілай на прыхадскіх вярстоцкіх могілках. Мы тады таксама задавалі бясконцыя пытанні, ад якіх балела толькі галава і плылі горкія слёзы. Аднак час не загойвае ран. Яны толькі прысыхаюць струпам, а жывая памяць не зарастае. Хопіць толькі нейкага імпульсу, каб усё стала ізноў перад вачыма з неўміручым, пранізлівым болем. Паміраць застаецца ўсім жывым на зямлі, а болю быць хіба вечным ва ўсім нашым космасе. І ад яго не ўцячэш і не схаваешся.

У апошнім часе з праблемай самагубства прыйшлося быць у сем'ях маіх знаёмых. Чалавеку з боку, нават найбольш спагадліваму, не ўявіць усіх тых супярэчлівых нерваў і псіхозу, якія спадарожнічаюць тады і ўжо назаўсёды іхнім сямейнікам. На жаль, у Польшчы праблема такіх трагічных смерцяў становіцца штораз больш сур'ёзнай грамадскай справай. Паводле паліцэйскіх даных у 2016 годзе зафіксавана 9861 самагубных спроб, 5405 асоб з іх паканчыла такім чынам жыццё. Даныя гэтыя няпоўныя, бо статыстыкі не ўлічваюць тых, калі ўмешваецца хуткая дапамога, а таксама калі ў выніку такіх спроб даходзіць да цяжкага калецтва ці смерці ў шпіталі. Дзеля трагічнага параўнання — у тым жа самым годзе ў дарожна-транспартных здарэннях загінула больш за тры тысячы чалавек. З даных паліцыі вынікае, што найбольш самагубных спроб здараецца ў Шлёнскім, Малапольскім, Мазавецкім ваяводствах, найменш у Падляшскім і Апольскім. Абсалютна часцей на такі крок рашаюцца мужчыны — на вышэйпададзены лік 5405 асоб было 4638 мужчын і 767 жанчын. Найбольшая колькасць гэтых здарэнняў спасцігае людзей у працаздольным узросце — паміж дваццаць пятым і пяцьдзясят дзявятым годам жыцця. Самым трагічным днём у гэтым плане з'яўляецца панядзелак.

Што схіляе людзей да такіх крокаў? Знайсці адзін матыў вельмі цяжка. Людзі ў адчаі вельмі рэдка пакідаюць развітальныя лісты, у якіх тлумачаць сваё рашэнне. Паліцыя прычыны гэтых здарэнняў шукае ў размовах з блізкімі і абапіраючыся на водгукі асяроддзя. Сярод усіх індывідуальных жахлівых выбараў дамінуюць самагубствы з дэпрэсіяй і псіхічнымі ды іншымі хваробамі. Далей ідуць сямейныя непаразуменні, няўдалыя каханні, эканамічная сітуацыя, даўгі, беспрацоўе. Гэта характэрнае для сярэдняга пакалення, якое ў штодзённай пацучынай гонцы не ў змозе існаваць без адпачынку і ў наяўнасці штораз большых выклікаў перад самім сабою, ці з боку фірмы. Жывуць яны вельмі часта ў ліхаманцы бясконцага спеху, што ненатуральнае для парадку нашага свету. З-за такога жыцця не маюць яны часу для сваіх бацькоў і дзядуль, што тых даводзіць да самоты і адчування сябе непатрэбнымі і пакінутымі. Ад такога думання ўжо невялікая дарога да дэпрэсіі і самагубных думак.

Увогуле дэпрэсія гэта хвароба, якая знішчае і адбірае ахвоту да жыцця мільёнам жыхароў нашай зямлі. Гэта яна — самы просты шлях да ўмоўнай цывілізацыі смерці ў дваццаць першым стагоддзі. Здаецца, маем парадокс: чым лепшыя ўмовы жыцця, тым больш баімся і дрыжым за гэтыя ўмовы. А жыццё ў штодзённым стрэсе і страху не дае аніякіх шанцаў для псіхічнага імунітэту арганізма. Звычайна пасядзець ці паляжаць, нічога не рабіўшы, гэта самы просты і абаронны спосаб для нашай духоўнай і эмацыйнай бяспекі. Варта пра гэта падумаць летняй парою і адставіць усе электронныя прычындалы ўключна з мабільнікамі ў далёкі кутох і проста цешыцца свабодай. І абавязкова трэба вярнуць дыстанцыю да ўсялякай мітусні свету.

**Яўген ВАПА**



# Пад пальмамі ў Міколы Цудатворца (ч.7)



З высі самалёта найбольш кідаліся ў вочы асветленыя квадраты і прастакутнікі, якія займалі шмат прасторы на тэрыторыі Італіі. А ўжо на поўдні гэтая інтрыгуючая з’ява здавалася неад’емным матывам ландшафту. Яшчэ тады, высока ў хмарах, не хацелася спалучаць асветленых прастакутнікаў са штодзённым жыццём і харчамі. Хутчэй за ўсё напаміналі салярныя электрафермы. Іх інтэнсіўны, агорнуты ў геаметрычныя фігуры бляск хутчэй застаўляў думаць пра мілітарныя, а не аграрныя справы.

Мова пра сучасныя аграаfермы, якія дастаўляюць на наш стол гародніну. Праўда, шакіруе не іх прысутнасць, а толькі масавасць з’явы. І тое, што яны існуюць па-за шырокай свядомасцю, быццам спавівала іх нейкая змова маўчання, тайна...

Мы мелі нагоду прыглядзецца з’яве зблізку. У мастацкай галерэі, пры самым затоўчаным тратуары ў Бары, якраз працавала слаўная фотавыстаўка «World Press Photo 2018».

Сярод балючых тэм сучаснага свету прэзентаваўся фотарэпартаж з такой аграфермы, залежнай ад тэхналогіі. Увесь працэс вырошчвання і даспявання тут пад дыктатам камп’ютарных праграм. Яны вырашаюць пра тэмп росту, памер і колер прадукту. На першы погляд свет штучных агародаў — стабільны і надзейны. Не пагражае яму засуха ні град.

Але ў гэтым мадэрным раі прабівалася балючая дэталь. Людзі! У зялёнай, буйной фабрыцы гародніцы, нашпігаванай тэхналогіяй, найбольш недарэчна выглядалі працаўнікі. Іх мізэрнасць, стомленасць і нэндза жыва кусалася з разнакалернасцю памідораў, кабачкоў, салаты і шпінату. У падобных аграфермах, як паясняў надпіс, працуюць нелегальныя імігранты, бежанцы, пазбаўленыя ўсякай перспектывы чорнарабочыя.

Сучасныя, схаваныя ад публічнага вока, рабы Еўропы. Пра іх не хацелася думаць пры талерках з пышнымі салацікамі з агародніны, якой славіцца міжземнаморская кухня.

* * *

Думаць і ведаць — не надта прывабная справа. Хоць па тратуары пераліваліся святочныя шэсці і табуны турыстаў, мала хто заходзіў паглядзець згаданую фотавыстаўку. А яна пацвердзіла не толькі моц сусветнай фатаграфіі, але і ўсе жахі, балячкі свету і прыхаваныя з’явы. Частка фатаграфій, як адзначылі куратары, нарадзілася ў сітуацыі пагрозы жыцця іх аўтараў. Такія здымкі з тэрактаў у Лондане і Лас-Вегасе. У кадры злоўлены недавер, злосць, бяссілле, прадчуванне і недарэчнасць смерці. І спачуванне чалавечага роду! Над ахвярай у крыві заўсёды пахіліцца нехта з мінакоў, нехта падасць руку, пацешыць. Глыбокая эмацыйнасць тут пераклікаецца з ананімнасцю, бескарысная спагадай.

Іншая фатаграфія адсылае нас у Тайланд, у клініку, дзе магчыма памяняць пол. На здымку маладая асоба, якая з дапамогай люстра, аглядае свае новыя палавыя часткі. Побач лекар, відавочна зацікаўлены рэакцыяй пацыенткі. Якраз у Тайландзе праводзіцца найбольш такога роду аперацый. Пра маніпуляцыю вакол інтымных частак цела знаёміць нас іншы фотарэпартаж з беднай афрыканскай вёскі. Яна паказвае маці, якая закладае гарсэт на грудзі дарастаючых дачок, каб адхіліць іх ад сексуальнага выгляду. Цягам чарговых гадоў дзяўчаткі будуць пераносіць невыносны боль, усё дзеля таго, каб прыкідвацца хлопцамі. Такім чынам пазбегнуць гвалтаванняў і нежаданай цяжарнасці, якія сталі чорнай нормай і паўсюднасцю ў іх свеце.

Паўсюднай, хоць непрыкметнай для вока, явіцца з’ява сучаснай прастытуцыі. Вялікае ўражанне выклікаюць партрэты прастытутак з Санкт-Пецярбурга. Іх камуфляж у звычайнасці. Яны нармальныя жанчыны, часта з недасканалай фігурай, якіх бачым на вуліцы і ў магазіне. У позірку няма разгубленасці ці адчаю. Наадварот, ад іх вее нейкая цеплыня, банальнасць, штодзённасць. Фатаграфіі папаўняе звестка, што ў Расіі прастытуцыяй займаецца звыш мільёна жанчын. «Грэшную» галерэю папаўняюць партрэты жанчын, захутаных ад ног да галавы ў хіджабы. На фатаграфіях яны хаваюць таксама вочы, якія тут прамаўляюць як самая сарамлівая частка цела.

Даволі мастацкая, хоць на самой справе трагічная, фатаграфія палаючага ў агні дэманстранта з Венесуэлы. Здымак узнік у маі 2017 года, у час крывавай дэманстрацыі супраць прэзідэнта Нікаласа Мадуры. Злоўлены ў фотаб’ектыў 28-гадовы Хосе Віктар Салазар Балза, герой здымка, перажыў і перайшоў 42 аперацыі. Згаданы мастацкі твор і дакумент, аўтарства Раналду Шэмідта, заваяваў галоўны прыз «World Press Photo 2018».

* * *

Схадзіць на фотавыстаўку мы пакінулі на апошні момант развітання з горадам Міколы Цудатворца. Пасля выхаду з галерэі ўвесь шчаслівы натоўп, які задаволены пераліваўся вуліцамі цэнтра, здаваўся яшчэ больш задаволеным і шчаслівым. Здзіўляла мізэрная зацікаўленасць інтэлектуальнай прапановай з найвышэйшай паліцы. Згаданую фотавыстаўку пакажуць толькі ў 100 гарадах свету, дык абмінуць такое глядзішча — звычайны грэх. Праўда, такая думка, у сутыкненні з каляровым людскім патокам і святочнай радасцю, здалася надта амбітнай і прэтэнцыёзнай. Цешыў нас энтузіязм, які выказвалі людзі ў святочных карагодах і шэсцях у гонар Міколы Цудатворца. Праблемы, як хутка аказалася, таксама не пакідалі ўдзельнікаў фэсту, паломнікаў і турыстаў.

У аэрапорце прывітала нас непрыемная вестка. Якраз у гэты дзень, без ранейшага папярэджання, успыхнула забастоўка працаўнікоў аэрапорта. Дамагаліся вышэйшай зарплаты і павышэння прэстыжнасці прафесіі. Яна панізілася з-за танных авіяліній і менш патрабавальнага адбору кадраў.

З-за іх незадаволенасці мы былі вымушаны чыпець дадатковыя гадзіны ў аэрапорце імя Караля Вайтылы. У такія моманты можна згубіць увесь энтузіязм і захапленне месцам. Але мы не нерваваліся. Перашкоды і дадатковыя кошты палічылі належнай ахвярай.

У агрэсіўным закалоце пашанцавала зрабіць некалькі здымкаў з забастоўкі, дзякуючы чаму здавалася, што далей назіраем за славутай фотавыстаўкай...

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

# Бежанства

## — гісторыя звычайных людзей

Падвядзенне вынікаў праекта «Бежанства — гісторыя звычайных людзей», рэалізаванага ад кастрычніка мінулага года Гайнаўскім стараствам за сродкі Еўрапейскай камісіі, адбылося 21 чэрвеня ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы. Яго вучні перамаглі ў трох катэгорыях конкурсу «Пазнаёмся з гісторыяй свайго рэгіёна — бежанства», арганізаванага ў рамках згаданага праекта. Старшыня конкурснай камісіі Анэта Прымака-Онішк, аўтарка кніжкі «Бежанства 1915. Забытыя ўцекачы», падвяла вынікі конкурсу і разам са старастай Гайнаўскага павета Міраславам Раманюком уручыла пераможцам узнагароды. Яна высока ацаніла ідэю і спосаб рэалізацыі Гайнаўскім стараствам праекта «Бежанства — гісторыя звычайных людзей» з удзелам вучняў гайнаўскіх звышгімназічных школ. На сустрэчу ў белліцэй прыбылі прадстаўнікі Аб'яднання сяброў Гайнаўкі з нямецкага горада Гетштад, у супрацы з якімі быў рэалізаваны праект аб бежанстве. Яны распавялі пра пасляваенных перасяленцаў з Усходняй Прусіі ў Германію і пра ўцекачоў з Сірыі і іншых краін, якія цяпер прыбылі ў Нямеччыну, а таксама пра іх намаганні прыстасавацца да жыцця і працы ў самай багатай краіне Еўропы. Выстава мастацкіх і літаратурных конкурсных прац, а таксама здымкаў і інфармацыі аб бежанстве, прэзентаваная ў Гайнаўскім белліцэі, была таксама падвядзеннем вынікаў праекта «Бежанства — гісторыя звычайных людзей».

Староста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк прывітаў сабраных у актавай зале белліцэя, сярод якіх былі настаяцель Прыхода Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы протаіерэй Іаан Раманчук, вікарны святар Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы протаіерэй Юрый Харытанюк, віцэстараста Ядвіга Дамброўская, прадстаўнікі нямецкіх партнёраў на чале з Карэн Гансэн, Дарыюш Скібінскі з Культурнага аб'яднання «Паштоўка» з Палічнай, Эва Мароз-Кэчынская з Белавежскага нацыянальнага парку і жанчыны з Універсітэта трэцяга веку з Гайнаўкі, Анэта Прымака-Онішк, а таксама дырэктары, настаўнікі і моладзь гайнаўскіх школ.

— Бежанства мела непасрэднае ўздзеянне на нашу гісторыю. Нашы продкі падчас Першай сусветнай вайны масава выехалі ў глыб Расіі. Расказы пра бежанства вусна перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Калі мы былі дзеткамі, даведваліся пра бежанства ад дзядоў, але ў цэлым мала пра яго ведалі. Добра, што цяпер ёсць асобы, якія даследуюць бежанства, распавядаюць пра масавы выезд у Расію і вяртанне нашых продкаў на радзіму. Мы спаткаліся тут, каб падвесці вынікі праекта «Бежанства — гісторыя звычайных людзей» і адкрыць выставу аб бежанстве. У наш час таксама ёсць многа бежанцаў, уцекачоў ад вайны і праследу або людзей, якія эмігруюць у пошуках лепшага жыцця ў замежжы, — заявіў староста Міраслаў Раманюк.

Анэта Прымака-Онішк сказала, што яе сустрэчы з моладдзю Гайнаўшчыны былі цікавымі, а плён іх конкурсных спаборніцтваў — багаты.

— Раней мы ў сваіх сем'ях чулі пра выезд продкаў у бежанства, але не было яго ў публічнай прасторы. Думалі мы, што гэтая гісторыя будзе забытай. Аднак памяць пра бежанства застаецца важнай у трэцім, чацвёртым і пятым пакаленнях. Гэта гісторыя спалучаная з нашай тоеснасцю і распавядае адкуль мы ёсць. Прошласць важная таксама і сёння, а яе зразуменне ў кантэксце сям'і, сваёй мясцовасці і гміны дапамагае зразумець кім мы з'яўляемся. Бежанства зараз самае актуальнае ў Еўропе, а бежанства 1915 года дапамагае зразумець цяперашняе бежанства, свет сённяшніх уцекачоў, — заявіла Анэта Прымака-Онішк.

Праект «Бежанства — гісторыя звычайных людзей» прадбачваў азнаямленне з сучасным бежанствам на прыкладзе Нямеччыны, куды апошнімі гадамі прыбыло каля мільёна ўцекачоў. Каардынатарам праекта «Бежанства — гісторыя звычайных людзей» з'яўляецца Люцына Ляўчук з Аддзялення прамоцыі і развіцця Гайнаўскага стараства. Распавяла яна пра мэты і рэалізацыю праекта, які пачаўся ў кастрычніку 2017 года і завершыцца ў жніўні гэтага года публікацыямі наконт бежанства і праекта. Каардынатарка заявіла, што патрэбным з'яўляецца будаванне пачуцця грамадскай адказнасці за бежанцаў, якія ўцякаюць ад ваенных дзеянняў і насілля ў багатыя еўрапейскія краіны і будавання атмасферы зразумення паміж рознымі нацыямі і пакаленнямі. Гэта бралася пад увагу, рыхтуючы план праекта аб бежанстве і хадайнічаючы за атрыманне сродкаў з Еўрапейскай камісіі.

— З 286 праектаў з 30 краін Еўрапейская камісія прыняла на дафінансаванне 39 праектаў, сярод якіх былі два праекты з Польшчы, у тым ліку наш, што для нас было вялікім вылучэннем. Атрымалі мы 14 750 еўра. Праект прадбачвае параўнанне бежанства стагадовай даўнасці з бежанствам пасля Другой сусветнай вайны з Прусіі ў Германію і з цяперашнім бежанствам з краін ахопленых ваеннымі дзеяннямі ў Нямеччыну. Важным этапам нашага праекта быў конкурс «Пазнаёмся з гісторыяй свайго рэгіёна — бежанства», якога плёнам з'яўляецца частка прэзентаванай выставы (будзе яна паказвацца ў сярэдніх школах Гайнаўкі). Будзем яшчэ выдаваць каляндар, фотаальбом і лістоўкі аб бежанстве і нашым праекце, — заявіла каардынатар праекта «Бежанства — гісторыя звычайных людзей» Люцына Ляўчук.

Карэн Гансэн з Аб'яднання сяброў Гайнаўкі з Гетштад распавяла ў белліцэі пра доўгую і складаную асіміляцыю немцаў, якія з Прусіі былі пераселены пасля вайны ў Германію. Уцекачы з Прусіі саставілі ажно 70% ад усіх ранейшых жыхароў зямлі Шлезвіг-Гольштэйн, у які пасяліліся і гэта выклікала складанасці. Хаця перасяленцы добра ведалі нямецкую мову і культуру, то складана было ім прыстасавацца да жыцця на новым месцы і многа з іх да канца свайго жыцця марыла вярнуцца на зямлі, дзе выхоўваліся да Другой сусветнай вайны.

— Праблемы ўцекачоў, якія зараз прыбываюць у Нямеччыну, падобныя да праблем уцекачоў, якія пераехалі з Прусіі. Найчасцей былі яны католікамі, а мясцовае грамадства найчасцей было пратэстанцкае. Пасля вайны на тэрыторыю сённяшняй Германіі прыбыло 10 мільёнаў уцекачоў, немцаў. Цяпер у нашу краіну з'явілася каля мільёна ўцекачоў. Часта не ведаюць яны нямецкай мовы, выхаваныя ў іншых культурных абставінах. З дапамогай нашага грамадства вучацца яны нямецкай мове, прыстасоўваюцца жыць у нашым грамадстве і хочуць пачаць працу. Тут вельмі важнае зразуменне і станоўчы падыход мясцовага грамадства да цяперашніх уцекачоў, што было таксама самым важным і ў мінулым, — гаварыла Карэн Гансэн.

Дарыюш Скібінскі з Культурнага аб'яднання «Паштоўка» з Палічнай, выступаючы ад імя конкурснай камісіі заявіў, што працы ацэньваліся па спосабе прэзентацыі тэмы бежанства, але значэнне мелі таксама мастацкія і літаратурныя здольнасці вучняў. Высока ацаніў ён 37 вучняў Комплексу прафесійных школ у Гайнаўцы і 13 вучняў Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы за вялікую ангажаванасць падчас падрыхтоўкі конкурсных прац.

У катэгорыі літаратурных прац першае месца заняла Юлія Пракапюк з Гайнаўскага белліцэя. Анэта Прымака-Онішк заявіла, што ліст Юліі Пракапюк быў абсалютна непаўторным і так спелым, што можна яго выслаць на літаратурны конкурс.

— Я сама падабрала спосаб прэзентацыі тэмы бежанства ў выглядзе ліста, які азагаловіла «Твой анёл ахоўнік». Гэта ліст анёла ахоўніка да маленькага дзіцяці, які кажа, што недастаткова ахоўваў гэтае дзіця падчас бежанства, чаго паслядоўнасцю былі цярпенні, а ў канцы смерць, — сказала Юлія Пракапюк, якая ў лісце паказала будучыню дзіцяці пасля смерці каля Бога.

Першае месца ў катэгорыі мастацкіх прац заняла белліцэістка Ізабэля Андрасюк, якая выканала вельмі цікавы дзённік успамінаў з вялікай колькасцю здымкаў і арыгінальна запрэзентаванымі кароткімі звесткамі аб бежанстве.

Першае месца ў катэгорыі фільмаў пра бежанства заняла стужка, якую знялі гайнаўскія белліцэісты Кацпэр Кэчынскі, Яцак Дружба, Мілаш Лапіч і Філіп Мацюка.

— Мы хацелі зняць фільм аб бежанстве, які розніўся б ад традыцыйных фільмаў, у якіх старэйшыя асобы распавядаюць успаміны сваіх родзічаў. Мы рашыліся пагаварыць з жыхарамі Гайнаўкі розных узростаў наконт бежанства, — заявілі Кацпэр Кэчынскі і Філіп Мацюка.

— З выказвання нашых суразмоўцаў відаць, што сярод малодшых жыхароў Гайнаўкі многа асоб мала ведае аб бежанстве. Рэалізаваны праект пра бежанства і таксама наш фільм патрэбныя, бо прыбліжаюць гістарычныя веды пра падзеі стагадовай даўнасці, калі нашы продкі паехалі ў бежанства, — сказаў Яцак Дружба.

Дыпломы і падарункі атрымалі ўдзельнікі ўсіх конкурсных катэгорый. Сярод іх былі таксама аўтары прэзентацый наконт бежанства і аўтары адзінага спектакля, падрыхтаванага з дапамогай настаўніц Комплексу прафесійных школ Анны Лясоты і Анны Цырук. Міхал Петручук з гэтай групы вучняў заявіў, што падчас рэалізацыі праекта даведаўся аб сваіх продках, якія таксама выехалі ў бежанства. Лепшыя мастацкія і літаратурныя працы конкурсу прэзентаваліся ў актавай зале белліцэя побач вялікай выставы «Бежанства. Незвычайная гісторыя звычайных людзей», аўтарамі якой з'яўляюцца Эва Мароз-Кэчынская і Анэта Прымака-Онішк.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**


Анэта Прымака-Онішк (справа) і Люцына Ляўчук


Старшыня конкурснай камісіі Анэта Прымака-Онішк і староста Міраслаў Раманюк уручылі ўзнагароду аўтарам фільма пра бежанства, белліцэістам Кацпру Кэчынскаму, Яцку Дружбу, Філіпу Мацюку і Мілашу Лапічу


Юлія Пракапюк

# Бежанства сям'і Бірыцкіх

З самага пачатку падкрэслю, што дакументы і здымкі з таго часу не збераглiся. Напішу ўсё, што расказала мая бабуля, Меланія Бірыцкая. Мала яна помніла той час. Усё падрабязна расказалі ёй яе бацькі і бабуля. Вельмі шкадую, што не ведаю імя сваёй прапрабабулі.

Мае прадзеды жылі ў Семяноўцы. У маленькай хатцы жыло пяць дарослых асоб і дзіця. Прадзед Давыд, прабабуля Зофія і маленькая ў той час бабуля Меланія, маці Зофіі і яе сёстры Наталля і Тацяна.

Перад пачаткам Першай сусветнай вайны старыя людзі гаварылі, што немец прыйдзе забраць пояс. Усе паўтаралі, што вельмі дрэнна тады будзе ўсім жыць.

Зосі часта снілася, што бачыць дамы з плоскімі дахамі.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, цар рашыў вывозіць усіх праваслаўных з тэрыторыі Падляшша ў глыб Расіі.

Казакі прыязджалі на конях у вёскі і гаварылі: «Ступай, ступай чем быстрэе! Проклятый германец ідзёт, он усім жэншчынам абрэзвает грудзі, дзяцей набівает на штыкі, старыкоў жывымі зажыгает, усё імушчэства забірает».

Многія жыхары рашылі ўцякаць.

Давыд пытаў, як гэта ўсё будзе адбывацца. Казакі сказалі, што можна браць свой дабытак і ехаць з сям'ёй возам, або прадаць дабытак і ехаць цягнікам. Цягнік будзе ў Ваўкавыску.

Сям'я Бірыцкіх рашыла ўцякаць ад немцаў цягнікам. Прадалі дзве каровы, свінню закалолі, курэй і гусей зарубалі. Мяса пасалілі і паклалі ў невялікую бочку, напяклі хлеба. Пасля ўсю вопратку павязалі ў клункі і паклалі на воз. На возе змясцілася бочка з мясам і некалькі буханкаў хлеба.

Перад ад'ездам памаліліся, перажагналі хату і ўсе селі на воз. Сям'я плакала калі выязджала з панадворка.

У Ваўкавыску прадалі каня і воз.

На станцыі стаялі таварныя вагоны, у якіх трэба было жыць некалькі тыдняў. У кожным вагоне было ўгары маленькае акенца, на падлозе ляжала салома.

Машыніст сказаў, што ўсе паедуць так далёка, што немец і нагою туды не ступіць.

Цягнік затрымліваўся на гарадскіх станцыях. На кожнай станцыі дзейнічаў Тацянінскі камітэт. Гэты камітэт быў створаны дачкой цара. Царэўна рашыла памагаць бежанцам. На кожнай станцыі бежанцам давалі гарачую ваду і суп. Была лазня, дзе можна было выкупацца.

Так даехалі да гары. Машыніст сказаў, каб усе маліліся, бо будзе ехаць уверх — каб цягнік не пайшоў назад і не сышоў з рэек.

Страшна было ехаць пад гару. Аднак праехалі шчасліва. На станцыі чакалі мужчыны з вазамі. Усіх завезлі ў вёску і той, хто вёз, браў бежанцаў у свой дом. Дамы мелі плоскія дахі, як у снах Зосі.

Не ведаю назвы вёскі. Ведаю толькі, што была яна восемдзесят кіламетраў ад Барнаула. За вёскай была вялікая рака. Палі і лугі былі далёка ад вёскі. Лета было вельмі цёплае. У першы дзень вясны на рацэ разрываўся лёд. Усе жыхары ішлі глядзець, як крыгі лёду падскокваюць уверх і разрываюцца на дробныя кусочкі. На наступны дзень пасля Пакровы адразу ішоў снег. Зіма была вельмі марозная. Усе баяліся зімовага ветру. Называлі яго бураном. Калі нават свяціла сонца і лёгкі вецер пакаціў па зямлі снег, гэта азначала, што хутка будзе вялікая завіруха. Трэба было, калі хто быў у дарозе, хутка дайсці або даехаць да вёскі. Вецер быў такі моцны, што чалавека мог занесці невядома куды. Ніхто не выходзіў з гэтага жывы. Усе вёскі былі агароджаны і брамы зачыняліся на час завірухі.

Бежанцы памагалі гаспадарам ва ўсіх работах.

Калі былі палявыя работы, то некаторыя члены сям'і ехалі ў поле нават і на два тыдні. Бралі з сабою ежу і там жылі ў шалашах. Дзеці і дзяды займаліся дамашнімі абавязкамі.

Усе ручайкі былі вельмі глыбокія. Можна было ўтапіцца нават у вузенькім ручайку. Усе гаварылі, што кожны ручаёк глыбокі на шэсць кіламетраў.

У Расіі прабабуля нарадзіла сына. Памёр ён, калі споўніўся яму год.

Аднойчы прысніўся Зосі сон. Быццам Давыд быў на вайне. Вярнуўся з другой жонкай. Яго новая жонка была апранута ў белую сукенку. Стала каля дома дзе жылі, махнула рукою і пайшла па дарозе. Затрымлівалася каля дамоў і махала рукамі. Дзе раз або два махнула, а дзе махала і шмат разоў.

Праз месяц дайшла да вёскі эпідэмія халеры. Вельмі страшная хвароба. Чалавек мог памерці за суткі. Сон Зосі азначаў, колькі людзей памрэ ў кожным доме. У іх доме памёр толькі гаспадар. У суседніх дамах памерла па двое і па трое сямейнікаў. Былі дамы, што памерла ўся сям'я.

Калі пачалася рэвалюцыя, усім было цяжка жыць. У вёску прыязджалі то „белыя", то „красныя", і ўсе патрабавалі ежы. Толькі калі прыехалі „белыя" і даведаліся, што былі „красныя", то падпальвалі людзям хаты, і наадварот.

Солтыс вёскі, дзе жыла сям'я маіх продкаў, сказаў так: «Людзі! Вы рабіце так: калі прыедуць „белыя", вы дайце ім і не гаварыце аб гэтым „красным", і наадварот, тады нашы дамы застануцца».

Усе паслухалі і так рабілі. Аднойчы ў вёску прыехаў сам Дзянікін са сваім войскам. Усім жыхарам прыказаў выйсці на вуліцу і спытаў: «Скажыце вы мне, бегалі здзесь „красные" іль нет?!»

У вёсцы жыў хворы мужчына, які ўвесь тросся і нічога не мог рабіць, есці таксама сам не мог — усё падала яму з рук. Той мужчына сказаў так: «А ў каевадны медны дзень бегалі, а ў каевадны медны дзень нет».

Солтыс крыкнуў: «Вашае высокае благародзіе, он умом дурной! Не бегалі здзесь „красныя", не бегалі!» Усе жыхары крычалі, што не бегалі і Дзянікін, набраўшы са сваім войскам харчоў, паехаў.

У Расіі прабабуліны сёстры выйшлі замуж за рускіх. Наталля была бяздзетнай. Яна з мужам займалася продажам быдла. Аднойчы ў дом, дзе яны начавалі, прыйшоў бандыт. Ён забіў іх жалезнай палкай, грошы забраў.

У вёсцы вельмі мала садзілі бульбы. Калі кожная гаспадыня накапала дваццаць пяць кошыкаў, то гаварыла, што хопіць ёй і суседцы. Многа сеялі пшаніцы. Часта варылі пельмені з абляпіхай.

Печкі палілі конскім і авечым навозам.

Многія сем'і, што туды прыехалі, рашылі застацца. Наша сям'я рашыла вяртацца. У вёсцы засталася замужняя сястра прабабулі Тацяна.

Мае продкі завязалі ў клункі вопратку і ежу. Муж Тацяны завёз іх на станцыю. Там было шмат сем'яў, якія рашылі вяртацца ў свой родны кут.

Зноў усе вярталіся таварнымі вагонамі.

Калі трэба было ехаць уніз, машыніст сказаў, каб усе маліліся, бо цягнік можа сысці з рэек.

Пакуль цягнік ехаў згары, усе дарослыя маліліся і вельмі перажывалі. Цягнік ледзьледзь сунуўся.

Цягнік затрымліваўся на некаторых станцыях, аднак ужо не было камітэта дапамогі. Ледзь пражылі з ежай, якую нарыхтавалі і з грошамі, якія збіралі на чорную гадзіну.

У роднай Семяноўцы ўбачылі поле зарослае пустазеллем. Хата была спалена.

Прадзед і прабабуля працавалі ў багатых гаспадароў, каб зарабіць на ежу для сям'і. Васьмігадовая бабуля хадзіла па вёсках і жабравала.

Жылі ў зямлянцы. Праз некалькі гадоў удалося збудаваць дом і здабыць жыта і бульбу, каб стаць гаспадарамі.

Са сваёй сястрой прабабуля пісала пісьмы да Другой сусветнай вайны. Пасля вайны не было адказу. Ніхто не ведае, што здарылася з сям'ёй Тацяны.

Ірэна ЛУКША

## Каго вінаваціць?

У „Ніве" № 24 (3240) ад 17 чэрвеня друкаваўся мой допіс „У чым я правінаваціўся? У ім звярнуў я ўвагу на неакуратнае стаўленне да пацыентаў на рэабілітацыйным аддзяленні Гайнаўскага шпіталя. Гэты тэкст з аўтарскай прыпіскай паслаў я па электроннай пошце дырэктару шпіталя. Лічыў на водгук. Не дачакаўся. Наконт канфлікту навокал маёй асобы я размаўляў 21 чэрвеня з ардынатарам. Гэта была „мужчынская" размова ў чатыры вочы. Абяцаў памагчы. Праблема надалей не вырашана, хоць скандал пакрысе прыціх. 25 чэрвеня я рашыў расказаць аб усім дырэктару. Хоць карыстаўся ён абмежаваным часам, але прыняў мяне. Выявіў я сваю праблему. Паколькі чакалі дырэктара дамоўленыя чарговыя наведвальнікі, дык параіў сустрэцца з прэсавым заступнікам і сваім намеснікам па медыцынскіх справах. З прэсавым заступнікам я прабаваў звязацца некалькі разоў. Не заспяваў яго ў кабінеце. Тэлефонных званкоў ніхто не прымаў. Апошнім разам супрацоўнік заступніка сказаў, што яго няма ў кабінеце і не ведае, дзе знаходзіцца.

— Патэлефануйце сакратарцы дырэктара ў кабінет, — чую ў трубцы мужчынскі голас.

— Падкажыце на які нумар патэлефанаваць.

— У інтэрнэце знойдзеце...

Вось, даражэнькія, як справа маецца. Ці гэта не абсурд? Старому пенсіянеру з абмежаванымі канторшчыкі дырэктара раяць шукаць інфармацыю на інтэрнэт-старонцы. Але не канец галаваломцы. Калі я 26 чэрвеня паслаў прэсаваму заступніку просьбу сустрэцца, дык два дні пазней па тэлефоне спадарыня заступнік выявіла, што ні аб чым не ведае і ніякай пісьмовай просьбы не атрымала. Мала таго, 26 чэрвеня нехта тэлефанаваў на мой нумар мабільніка з нумара 6829042 (службовы тэлефон прадстаўніка дырэктара па справах медыяў.) Хто і ў якой справе хацеў са мною звязацца, дык мая суразмоўца не змагла адказаць. Мне здаецца, што хтосьці з канторшчыкаў дырэктара надта цікавіцца справай кузаўскага супрацоўніка „Нівы", які ладзіць станоўчыя міжлюдскія адносіны з прэсавым заступнікам ды самым кіраўнікам Гайнаўскага шпіталя і хоча мяне абсмяяць. Абмінаюць мяне зараз па рэабілітацыйным аддзяленні як „пракажонага". А я Богу духа вінаваты. Ніхто дагэтуль не прад'явіў у мой адрас ніякіх закідаў. Не знаходжу адказу, як доўга можна цярпець 78-гадовому хвараВітаму чалавеку такую крыўду. За якія грахі пакутую? Адкажыце паважаны спадар дырэктар.

З павагай
Уладзімір СІДАРУК
карэспандэнт штотыднёвіка „Ніва"

# На св. Ануфрыя

У суботу, 23 чэрвеня гэтага года ладзілі беларускі народны фэст у Старым Масеве Гайнаўскага павета. Культурна-забаўляльнае мерапрыемства спалучылі з мясцовым святам святога Ануфрыя. Тут шануюць шматгадовую традыцыю. У гэтай пушчанскай вёсцы пражываюць 64 чалавекі ды 36 у Новым Масеве. У гэты дзень было пахмурна, падаў дробны дождж і было холадна як на гэтую пару года. Пераносную сцэну і лавачкі паставілі перад мясцовай прыгожа памаляванай святліцай. Гэтак было і два гады таму. У мінулым годзе фэст арганізавалі ў Новым Масеве і тады здалі там у карыстанне новую святліцу.

Фэст адкрыў і прывітаў яго ўдзельнікаў з зычаннямі прыемна правесці час войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч. І пачаўся канцэрт. Вяла яго Кася Бяляўская з Нараўкі. Першым выйшаў на сцэну гурт „Вясна" з Беластока. У сваім рэпертуары меў папулярныя беларускія песні, песні на словы паэта Юркі Буйнюка і польскія песні. Затым выступілі фальклорныя калектывы „Росы" з Вясковага дома культуры ў Рыбалах і „Нараўчанкі" з Нараўкі. У іх выкананні былі беларускія, польскія і ўкраінскія песні. Усе выканаўцы мелі прыгожыя касцюмы. Яны спявалі і радавалі публіку,



„Мілавіца" са Свіслачы

Гледачы цёпла ўспрынялі выступ жаночай „Мілавіцы" са Свіслачы (Рэспубліка Беларусь). У іх прыгожыя і мілагучныя галасы. Яны добра сябе адрэкамендавалі. Іх лепшыя беларуская і руская песні былі лірычныя, у галоўным пра каханне. Зараз яны амаль усе вядомыя жыхарам Беласточчыны. Розніца ў тым, што яны лепш гучаць у выкананні „Мілавіцы". Варта дадаць, што неўзабаве можна будзе яе паслухаць яшчэ раз — 7 ліпеня г. г. выступіць яна на „Купальскай ночы" ў Нараўцы. На заканчэнне канцэрта ў рытме дыскапола граў і спяваў моладзевы эстрадны гурт „Аванці" з Васількава каля Беластока.

Спяваў ён папулярныя сярод моладзі перш-наперш рытмічныя польскія песні, напрыклад, „Szalone oczy zielone".

23 чэрвеня г. г. у прыгранічным Старым Масеве было гучна. Мо чуваць было музыку і спевы па другім баку дзяржаўнай польска-беларускай мяжы ў найбліжэйшай ад Масева Ціхаволі? Два гады таму тэлефанавалі з Ціхаволі ў Старое Масева і сказалі сваім знаёмым, што і яны слухаюць наш канцэрт. Перадалі найлепшыя святочныя пажаданні. Паслухаць канцэрт прыехалі ў Масева некаторыя жыхары навакольных вёсак, між іншым, з Нараўкі, Альхоўкі, Ланчына, Новага Ляўкова, Семяноўкі і... з Беластока. Яны вельмі любяць слухаць перш-наперш беларускія песні. Любяць і спяваць.

Тэкст і фота
Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

## Беларусы самыя лепшыя

Добрай традыцыяй стала інфармаванне ў „Ніве" пра поспехі беларускай моладзі ў Літве. Ад многіх гадоў падчас матуральных экзаменаў па роднай мове дабіваюцца яны стапрацэнтнага пакажчыка пасяховасці. Паводле даных Літоўскага нацыянальнага экзаменацыйнага цэнтра такі ж вынік дасягнулі яны і сёлета. Усе тыя, якія прыступілі да экзаменаў па роднай беларускай мове, здалі іх паспяхова. У выпадку польскай мовы пакажчык паспяховасці склаў 99,8%, а рускай — 97,2%. Звернем увагу, што ў Літоўскай Рэспубліцы экзамен па роднай мове на матуры — неабавязковы і прыступаюць да іх выключна жадаючыя. У польскіх школах такі экзамен здавала 819 выпускнікоў, у рускіх — 248, у беларускіх — 5. Несумненным поспехам можна палічыць рост колькасці асоб, які здавалі экзамен па беларускай мове — у мінулым годзе было іх толькі дзве. Матуральны экзамен па беларускай мове становіцца больш папулярным.

Беларусы ў Літве складаюць 1,2% ад агульнай колькасці насельніцтва краіны. З іх ліку 18,4% роднай мовай лічаць беларускую.

Адам БОБРЫК


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Чаму ў Белавежскую пушчу, а не на мора?

На заканчэнне школьнага года Марк і Іван атрымалі пасведчанні з вылучэннем. На іх былі адны пяцёркі і шасцёркі. Бацькі абяцалі ім, што ўзнагародай будзе выезд у Белавежскую пушчу. Хлапчукі здзівіліся: чаму ў пушчу, а не на мора?

Але калі толькі сям'я пасялілася ў маленькай хатцы сярод пушчы, хлопцы былі ў захапленні. У вокны заглядалі ім высокія елкі, старыя дубы, разгалістая ліпа. З самай раніцы пачулі спеў салавейкі і стукат дзятла. На паляне яны сабралі і прынеслі букет з розных лясных кветак. У хаце пахла медуніцай. Сям'я не хацела вяртацца ў горад.

Пасля вяртання ў хаце мама зрабіла варэнікі з чарніцамі, якія хлопцы сабралі ў Белавежскай пушчы.

Хлопцы зразумелі, чаму бацькі завезлі іх у Белавежскую пушчу.

**Міхал Пахвіцэвіч,**
*Белы лес*, *бельская «тройка»*

Малюнак Кляўдзі Ніканчук



# Вечар талентаў!

У другі дзень Сустрэч «Зоркі» многа часу праводзілі мы на пляцы гульняў: гушкаліся на гойданках, хадзілі на хадулях, круціліся на «шайбе». Нашай задачай было падрыхтаваць ля вогнішча вечар талентаў. Нашы апекуны сказалі, што выступленні рыхтуюць усе тры рэдакцыі.

Пасля дзесяці хвілін наша рэдакцыя сабралася ў хатцы. Мне гэта вельмі спадабалася, таму што заўсёды трэба было кагосьці шукаць. Мне здаецца, што мы маглі б зрабіць больш, аднак пасля трох гадзін перакладу і падзелу на ролі ў нас атрымалася двухвілінная гумарыстычная сцэнка.

Мне вельмі спадабаліся думкі іншых рэдакцый. Пераможцам стаў «Белы лес», які згуляў смешнае «вяселле». Ва ўзнагароду яны атрымалі ананас.

**Іван Карсунскі,**
***Нараўчанская ластаўка,***
*НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*


«Вяселле» рэдакцыі «Белы лес»

Міра ЛУКША
## Незабудка

Незабудка жоўтым вочкам
глядзіць з траўкі у садочку,
росным позіркам сардэчным,
з мікракосмасу ў вечнасць.
Не забудзь! — цікуе памяць
сіненькіх пялёсткаў замець.
Хто пасеяў неба кропкі?
Бог рукою нетаропкай,
на зямныя Свае ўгоддзі,
каб жыццё нам асаладзіць
успамінам мілым, яркім.
Кветкі — Госпада падаркі,
каб ніхто з нас не забыўся,
што ў Небе нарадзіўся,
у Божай памяці спрадвечнай,
адкуль істоты ўсе і рэчы,
усе задумы і пачыны.
Не забыцца мы павінны,
дзе выток наш галубовы,
чыстае як ранне — слова.

## УВАГА КОНКУРС! № 27-18

У лужку-лужочку
Выраслі сястрычкі:
Залатое вочка,
Белыя раснічкі.
Р......

(Ніл Гілевіч)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 15 ліпеня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 23-2018: васількі. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Дамініка Жук з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока і Марта Петручук з Нарвы. Віншуем!



# Для мяне патрыятызм — гэта жыццё ў годнасці!

## Інтэрв'ю з **Яўгенам Вапам**, галоўным рэдактарам «Нівы» і Радыё Рацыя.

**«Бусел»:** — *Хто для Вас быў героем, калі Вы былі ў нашым узросце?*

**Яўген Вапа:** — Спачатку гэта былі літаратурныя персанажы. Героі браліся з прачытаных кніжак. Калісь я начытаўся пра факіраў, Гэта людзі з Індыі, якія ўмеюць легчы на цвікі, босымі нагамі хадзіць па вогнішчы і нічога з імі дрэннага не здарыцца. Я вырашыў праверыць, як гэта яны робяць. Распаліў вогнішча і ўвайшоў на жар. Факірам я не застаўся, але цэлы абгарэў. Потым цэлы месяц браў таблеткі і раніцай уставаў з расою, бо маці гаварыла, што раса добра гоіць раны.

**«Бусел»:** — *А сёння?*

**Яўген Вапа:** — Сёння гэта самыя блізкія для мяне людзі — мае дзяды, бабулі, мае аднавяскоўцы. Гэта людзі, якія сталі вядомымі, дасягнулі прызнанне і сусветную славу, але далей гавораць, што яны — беларусы.

**«Бусел»:** — *Калі Вы сталі патрыётам? Ці патрыятызм таксама вывучаем у школе?*

**Яўген Вапа:** — Патрыятызм — важная справа. Як ведаеце, у школе ўсяго не вывучыш. Розуму нас ніхто не навучыць. Можа нам хтосьці дапамагчы, накіраваць, але розуму не навучыць. Для мяне патрыятызм — гэта жыццё ў годнасці. Гэта асабістая годнасць і годнасць нацыянальная. Памятайце, што жыццё ў годнасці дае поле для самарэалізацыі. Патрыятызм для мяне ва ўсім. Трэба быць сабой і годна ставіцца да іншых людзей, да сваёй спадчыны, да сваёй нацыянальнасці. А добрая школа гэта такая, якая падае добры прыклад, дае час, каб задумацца.

**«Бусел»:** — *З чым у Вас асацыююцца колеры на беларускім сцягу?*

**Яўген Вапа:** — Калісь я быў царкоўным прыслужнікам і колеры беларускага сцяга асацыююцца мне з колерамі на рызе мітрапаліта. Гэта першая думка, якая прыходзіць мне ў галаву. Для мяне вельмі важнае, што колеры на беларускім сцягу мае важная асоба ў царкоўным жыцці. Белы і чырвоны колеры — сімвал жыцця. Чырвоны колер гэта не толькі сімвал крыві, гэта жыццё і адвага...

**«Бусел»:** — *Што Вам дае энергію для дзейнасці на беларускай ніве?*

**Яўген Вапа:** — Перш за ўсё — беларускае слова. Я магу чытаць, пісаць, думаць, сустракацца з людзьмі, якія не паддаюцца, не наракаюць, што ўвесь час ім вельмі дрэнна. Энергію даюць мне такія сустрэчы, як сёння, дзе можам пагаварыць у пошуме дрэў, зняць боты і пахадзіць па сваёй зямлі басанож. Вось гэта дае мне шчасце, радасць і энергію для дзейнасці.

**«Бусел»:** — *Як выглядала Ваша першае святкаванне Дня Волі ў Польшчы?*

**Яўген Вапа:** — На гэтае пытанне мне цяжка адказаць, бо я не такі яшчэ стары. У часы, калі гэтае свята было забаронена, людзі сустракаліся ў сяброўскім крузе. Яны ўспаміналі, спявалі, выпівалі чарку за 25-е Сакавіка. Ужо ў 1985 годзе мы з сябрамі з Варшаўскага ўніверсітэта наладзілі святкаванне ў Варшаве, а ў 1987 годзе мы святкавалі ў адным прыватным памяшканні ў Беластоку. Ад таго часу святкуем безупынна. Зараз свята набыло масавы характар, яго адзначаюць па школах, на афіцыйных мерапрыемствах. Мяне цешыць, што размаўляем пра гэтую падзею на Сустрэчах «Зоркі».

**«Бусел»:** — *Што Вас захапляе ў беларусаў? Можа гісторыя, бо мы ведаем, што Вы па адукацыі гісторык?*

**Яўген Вапа:** — У кожным народзе ёсць рэчы, якія захапляюць. У беларусах, паляках, немцах. Кожны народ мае сваю сілу, славу, але мае таксама свае дрэнныя рысы і заганы. Адна рэч, якая мне падабаецца ў беларусаў, гэта шматканфесійнасць і рэлігійная талерантнасць.

**«Бусел»:** — *Які твор лічыце найбольш патрыятычным?*

**Яўген Вапа:** — Твор, у якім няма зашмат пафасных слоў. Напрыклад, верш Надзеі Артымовіч пра Бельск, творы Віктара Шведа, Алеся Барскага, Юры Баены пра Беласточчыну.

**«Бусел»:** — Вы арганізавалі святкаванне ў гонар 100-годдзя БНР. Там выступала моладзь і дзеці. Ці важна, што дзеці святкуюць такія падзеі?

**Яўген Вапа:** — Дзеці і моладзь — наша надзея. Гэта надзея, што вы пасля нас прадоўжыце святкаванне і абароніце каштоўнасці беларусаў. Шануйце гэты дзень і перадавайце свае веды бацькам, сваім дзеткам і ўнукам.

**Гутарылі** *Мікола Здрайкоўскі, Вікторыя Гаць, Юстына Бакуменка, Аня Радзівончык, Дар'я Несцярук, Уладзік Кутузаў, Юлька Грэсь*



(Песню спапулярызавала сустрачанскае трыо: Віка Гаць, Паўлінка Ёдла, Магда Люнда; бельскія дзяўчаткі развучылі яе на школьную лінейку з нагоды 25 Сакавіка.)

## Ой развівайся
(песня)

Ой развівайся дубік зелененькі,
Заўтра мароз будзе,
Ой збірайся хлопец маладзенькі
Заўтра паход будзе.

Я і марозу далей не баюся,
Зараз разаўюся,
Я і паходу далей не баюся,
Зараз пацягнуся.

Ой развівайся дубік зелененькі
У полі пры даліне,
Ой збірайся хлопец маладзенькі
Бараніць Радзіму.

Ой пахіліўся дубік зелененькі,
Пахіліўся ўгору,
Ой вы хлопцы, добры малойцы
Вярніцесь дадому.

Ой развівайся дубік зелененькі,
Заўтра мароз будзе,
Ой збірайся хлопец маладзенькі
Заўтра паход будзе

## Польска-беларуская крыжаванка № 27-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 23-2018:**
Рэчка, ява, пагляд, рэ, школа, палец, Ом, лівень, міна, нага, канапа, хата, аныж. Рот, Эдэм, мах, ліга, шпінат, кава, поле, каленка, гаць, на, фан, вянок, пі, Адам, паж.

Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі **Габрыела Госцік** з Міхалова, **Алівія Верамчук** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Mleko | Mit | Finał | | Szpinak | Bartnik | |
| Zdanie / Miska | | Klik / Świst | Kawa | | | | Co? | | | |
| | | | | | | | Dźwięk | | | |
| | | | | | | | | | | |
| | Marynarz / Nurek | | | | Iwa / Och! | | | | | |
| | Sokółka / Wieloryb | | | | | | | | | |
| | | | Och! | | | | Prąd | | | |



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# У XX стагоддзі ў Кашалях

## Бежанства

Як расказваў мне ў 1999 годзе Арсень Лушч, тады 86-гадовы пенсіянер (14.12.1912-06.08.2004), у жніўні 1915 года жыхары Кашалёў падаліся ў бежанства. На радзіму ягоная сям'я вярнулася пасля Пакровы ў 1918 годзе, некаторыя жыхары вёскі вярталіся ажно ў 1921 годзе. У Кашалях уцалела толькі некалькі хат (дзе жывуць Майстровіч, Серафім і Гаворка). Людзі не мелі дзе жыць і што есці. Многія жанчыны, у якіх былі малыя дзеці, жабравалі. Быццам тое жабрацтва прывезлі з бежанства, бо і там жабрацтвам здабывалі кавалак хлеба. Папраўдзе, такім быў вынік цэлага бежанства, да якога агітавалі праваслаўныя святары.

— У час Першай сусветнай вайны ў арлянскай царкве немцы трымалі збожжа і бульбу; пасля іх адыходу некаторыя людзі пакарысталіся назапашаным дабром. Пасля прыйшла гуманітарная дапамога з Амерыкі (кансервы, гарох), якую размяркоўваў солтыс.

## Школа пры санацыі

— У 1921 годзе пайшоў я ў школу (школьны будынак у 2002 годзе перададзены пад каталіцкую капліцу). Усе дзеці звычайна хадзілі басанож. Да школы бацька зрабіў мне шнураваныя лапці. Калі настаўнік Врублеўскі пабачыў іх, жахнуўся і падараваў мне сапраўдныя боты. Я ад радасці зняў лапці і з гэтымі ботамі на плячу прыбег боса па снезе дадому.

Кіраўніком школы ў Орлі быў тады Бялецкі, а настаўнікамі працавалі яго жонка, Врублеўскі (пазнейшы кіраўнік) з жонкай, Марыя Мануўна, Дэмбіцкі, Бельскі, Тачыскі, Крысяк. У школу хадзіў я чатыры гады, але ў пяты клас мяне не перавялі, бо я прапусціў многа ўрокаў. Тады бацьку моцна пабілі коні і мне трэба было яго заступіць на гаспадарцы.

У першым класе не было ў нас ні кніжак, ні сшыткаў. Спачатку пісалі мы на драўляных дошках з дапамогай грыфеляў. Потым з'явіліся сшыткі, якія насіў я ў пашытым мамай мяшку са шлейкай. Тады на вёсцы была паўсюдная нэндза. Такі быў час. Хлеба ніхто не купляў, хаця ў Яўрэяў былі пякарні. Кожны сам малоў жыта ў жорнах і сам выпякаў. Сёння такога хлеба нават сабака не еў бы, а тады людзі елі.

Цяпер так моцна расхвальваюць санацыю, аднак жыццё ў нас тады было нэндзнае. Такая вось праўда!

## У полі басанож

— А хто там у школу хадзіў, якое было тады навучанне — расказвала ў 1998 годзе пенсіянерка з Кашалёў 76-гадовая Марыя Качан-Філіманюк (25.05.1922-19.04.2014). — Я ўжо ў дзесяцігадовым узросце жала сярпом. Пятнаццацігадовыя дзяўчаты збіраліся на пакудзелле, пралі, ткалі. Не скончыўшы поўных сямнаццаці гадоў (1938 г.) я выйшла замуж. У поле трэба было хадзіць з маленькімі дзяцьмі. Бывала, паложыш дзіця ў мыдаль і робіш. Сямігадовы сын пільнаваў найменшае немаўля. Калі яно пачынала плакаць, тады я бегла накарміць яго грудзьмі і зноў вярталася да работы. Гэта не так як зараз, калі дзіця народзіцца, то не ведаюць як хукаць. Немаўля купку зробіць, страсеш і зноў закрунеш, забронтаеш тое дзіця і ляжыць пад мыдалем. Палоскі былі вузкія, цягнуліся пару кіламетраў, аж пад Рудуты. Па полі тады басанож хадзілі, а ногі аж да крыві былі пакалечаны пожняй. Калі сталі жаць касой, работа ішла шпарчэй.

Людзі тады без школы былі, не дбалі каб дзяцей пасылаць у школу. Я дурненькая была ў свае 12 гадоў. Як мама радзіла, то мяне зачынілі ў каморы. Дзіця ўжо плача, а я выглядаю бусла. Дзе ж той бусел, хвалююся. А цяпер дзецям усё ў тэлебачанні пакажуць — і разумнае, і дурное таксама, — падвяла сваё выказванне жанчына.

Зусім нядаўна ўдалося мне яшчэ раз зверыць працу басанож у полі. Уладзімір Пасечнік з Орлі, 1929 года нараджэння:


Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

— Пры санацыі, а і пазней, людзі не мелі ботаў. Да працы ў полі некаторыя рабілі сабе такія шкарпэты. У царкву ішлі басанож, толькі перад самой царквой абувалі боты; такая ашчаднасць была. У жніво пожня была вострая, да таго ж калісь жалі нізенька каб было больш саломы. І саломы не хапала на сечку...

— Гэтыя шкарпэты можна было падшыць? — дапытваю.

— Тады і шматак не было. Па-суседску з намі жыў Тхарэўскі, то ён хадзіў у палатаных нагавіцах, дзе латка на латцы былі.

Помню вывазку яўрэяў. Мы, хрысціяне, стаімо дзе сёння *блёчэк* (насупраць парку пры вуліцы Вузкай), там тады бугарок быў. Было ўжо холадна, лістапад, Казанская акурат. А нашы стаялі басанож, я таксама. Ой, Божа! Немцы выгналі яўрэяў на пляц, дзе раней стаялі крамы.

## Горкая праўда і пажары

Вялікі пажар Орлі 18 мая 1938 года. З успамінаў Зінаіды Нядзельскай (26.1.1916-2.02.2001) з Орлі:

— Не было ніякага ратунку. Адразу сарваўся вецер, які вокамгненна пераносіў агонь. Яўрэі ў спешцы выносілі дабро з палаючых хат, з вуліцы 3 Мая выносілі на недалёкую Пакатоўшчыну — поле, лугі з боку Кашалёў, а нядобрасумленныя людзі кралі гэтыя рэчы (напрыклад, пярыны, падушкі) і занасілі іх у Кашалі...

Аб тых здарэннях я часта чуў ад пажылых жыхароў Кашалёў, расказвалі з нясмелай усмешкай. Я дапытваў, ці на пажар беглі толькі людзі з Кашалёў.

— Беглі і з іншых вёсак, — адказвалі.

Такая горкая праўда. Беглі не дзеля таго, каб дапамагчы, але каб грабіць. Так бывае па ўсім свеце, дзе здараюцца стыхійныя бедствы...

## Пасля Другой сусветнай вайны

Зінаіда Нядзельская ўспамінала: — У пасляваенных гадах у Кашалях вельмі часта ўспыхвалі пажары, найчасцей ад навальніц. Яны вельмі палохалі жыхароў Орлі, якія — калі ў Кашалях успыхваў пажар — то ў Орлі людзі ўжо пакаваліся. Кашалёўцы, хочучы ўпрасіць Бога аховы ад пажараў, узвялі некалькі крыжоў (зараз яны развальваюцца) і рашылі святкаваць Вялікдзень і Ражджаство не два, але тры дні. Так ёсць і сёння...

## Маладзёжныя бойкі і бітвы

Варта нагадаць нейкія, хаця кароткія, нядобразычлівыя адносіны да кашалёўцаў. Гэта я ўжо сам памятаю. Хаця Кашалі мяжуюць з Орляй, то быў перыяд 1967-1969 гг., калі старэйшыя і дужэйшыя хлопцы з Орлі (праваслаўныя і каталікі) на перапынках (ды не толькі) усчыналі сур'ёзныя бойкі з кашалёўскімі равеснікамі. Арлян дражніла крыху іншае вымаўленне кашалёўцаў, напрыклад у Кашалях гаварылі цвёрда *робыты*, а ў Орлі — *робіты*.

Але быў таксама перыяд, калі частка моладзі з Орлі шчыльна супрацоўнічала з кашалёўцамі. У канцы 1960-х гадоў дзясяткі арлянскіх маладзёнаў гулялі ў вайну на драўляныя шаблі. Былі дзве групы: адна з паўднёвага боку рынку, а другая з паўночнага. Найчасцей перамагала група з поўдня, таму здаралася, што паўночнай групе дапамагала моладзь з Кашалёў. Было іх многа, але не былі яны натрэніраваны, не мелі шабляў толькі простыя палкі. Сёння тыя змаганні напамінаюць рэканструкцыйныя бітвы, як рэканструкцыйныя змаганні пад Грунвальдам. Баі адбываліся летам, а нават зімою.

## Спорт і танцы

У пачатку 1980-х гадоў кашалёўская моладзь пабудавала грамадскім чынам спартыўную няпоўнамаштабную пляцоўку побач сваёй вёскі. Адрадзілася футбольная каманда пад назвай LZS Koszele, а з 1989 года SpiUR Orla; зараз гэта GKP (Gminny Klub Piłkarski) Орля (у 2017 годзе спартыўны аб'ект перабудавала і разбудавала гміна).

Таксама ў 1980-х гадах кашалёўская моладзь, калі справілася са спартыўнай пляцоўкай, тады ўзялася рамантаваць вясковую святліцу, на гарышчы якой наладзіла кавярню (у апошніх гадах святліцу рамантавала гміна).

Трэба падкрэсліць адну рысу малых мясцовасцей. Калі пра камп'ютары ніхто не марыў, а тэлевізар быў рарытэтам, тады моладзь гарнулася больш да спорту. Недзе ў 1970-х гадах і пазней настала мода на танцавальныя забавы ды выпадковае спажыванне алкаголю. Людзі весяліліся. Вясковыя вяселлі доўжыліся ў прынцыпе прынамсі два дні. Я асабіста аб гэтым добра ведаю, бо ў 1970-1980-х гадах іграў з рознымі калектывамі на дзясятках вяселляў і на вясковых танцавальных забавах. У тыя гады кашалёўская моладзь часта ладзіла забавы. Каля 1990-га года ладжанне забаваў у вясковых святліцах спынілася — памянялася музыка, увайшло дыска-пола, забавы сталі ладзіць у дастасаваных вялікіх будынках (напрыклад, у старых школах, эскаэраўскіх збудаваннях), а вясковыя святліцы сталі занепадаць...

## Вясковы танк

У ліпені 1991 года земляроб з Кашалёў Сцяпан Хурса купіў гайнаўскі танк, заплаціўшы роўна мільён старых злотаў. Савецкі танк Т-34, сімвал вызвалення горада Савецкай Арміяй ад гітлераўскай акупацыі, цягам дзесяцігоддзяў стаяў як своеасаблівы помнік на скверы перад будынкам Гарадской управы ў цэнтры Гайнаўкі. І так цягам паўгода дзеці з Кашалёў і навакольных вёсак гулялі ў танку і каля яго на панадворку ў Кашалях. Пасля танк памяняў уласніка і апынуўся на прыватным участку каля шашы Пішч — Шчучын.

## Інфраструктура

У палове 1970-х гадоў у Орлі пракладзены быў водаправод, які пазней праклалі і ў Кашалі дзякуючы захадам жыхароў вёскі.

У доўгай вёсцы Кашалі была брукаваная вуліца, але частка вясковай вуліцы ад скрыжавання на поўнач мела пясочны насціл. Толькі пад сам канец XX стагоддзя брукаваная вуліца ў Кашалях атрымала першы асфальтавы насціл. Так успамінае сёння адна маладая жыхарка Кашалёў:

— Памятаю, што калі мне было 15 гадоў (каля 2000 года), і мы каталіся па асфальце на роліках, то адна старэйшая жанчына дакарала нас, што «парысуем» асфальт.

У канцы 2000 года ў Кашалях пражывала 300 асоб (у Орлі 985, ва ўсёй Арлянскай гміне 3845), у канцы лістапада мінулага года ў Кашалях пражывала 236 асоб (у Орлі 894, у гміне 2882).

Міхал МІНЦЭВІЧ

*Лёс беларусаў Беласточчыны*

# На хутары каля вёскі Войшкі

У Дзятлаве на Гарадзеншчыне жыве Лідзія Ляшэўская. Жанчыне ўжо 83 гады. Дзякуючы ёй і яе дачцэ Святлане, мне ўдалося даведацца пра лёс іх сям'і. А лёс Ляшэўскіх не песціў, таму што не па сваёй волі прыйшлося пасля Другой сусветнай вайны развітацца з роднай Беласточчынай і паехаць на ўсход шукаць іншую долю.



■ Аксенцій Ляшэўскі з сынам Пятром і дачкой Лідзіяй каля свайго хутара недалёка ад Войшкаў, каля 1939 года



■ Пётр Ляшэўскі з бабулямі каля саламянай хаты. Войшкі, 1940 г.



■ Аксенцій Ляшэўскі ў Беластоцкай бальніцы. Пасля бальніцы казаў, што ніколі больш у жыцці ў такой чыстай і белай бялізне не ляжаў, як тады ў бальніцы, 1944 г.



■ Ляшэўскія з Беласточчыны і Дзятлава сустрэліся ў Дзятлаве, 1969 г.



■ Падчас провадаў у польскае войска. Войшкі, 1938 г. Сярод вяскоўцаў шмат Ляшэўскіх

Калі развіталіся з родным куткам, Лідзіі Ляшэўскай споўнілася 11 гадоў. Яе бацькі Аксенцій Емяльянавіч і Ефрасіння Сямёнаўна былі родам з вёскі Войшкі. Там нарадзілася Лідзія і яе брат Пётр. Бацька вырашыў аддзяліцца ад сям'і і купіў хутар з кавалкам зямлі недалёка ад Войшкаў, куды і перавёз дом (500 метраў ад вёскі). Там у іх сям'і нарадзіліся яшчэ Зіна і Мікалай. Жылі добра, трымалі карову, каня, двое парасят, куры, качкі, трусоў. Побач працякала рака Нарва. Да самой ракі былі пасаджаны яблыні і грушы, садзілі шмат клубніцаў (трускалак, як казалі мясцовыя людзі). Трускалкі вазілі прадаваць у Беласток. Бацька заўсёды прывозіў з Беластока, як прыгадвае Лідзія Ляшэўская, дзяўчатам пацеркі і прыгожыя стужкі, а сынам — розныя свістулькі, а таксама ўсім салодкія ласункі.

Каля хутара Ляшэўскіх была крыніца. Аксенцій Ляшэўскі ўпарадкаваў яе, забетанаваў і сям'я брала адтуль чыстую ваду для піцця. Падчас вайны немцы пайшлі на крыніцу мыцца, але засмяцілі яе так, што глядзець было сорамна. Убачыў гэта нямецкі камандзір і загадаў сваім жаўнерам вярнуць чысціню на крыніцу, што і было зроблена. А потым нямецкі афіцэр прыйшоў у хату да Ляшэўскіх і папрасіў прабачэння.

Падчас вайны быў і яшчэ адзін выпадак. На заўшніцу (краснуху) захварэў парсючок. І Аксенцій яго закалоў, але не папярэдзіў немцаў. А гэта трэба было зрабіць абавязкова, бо немцы баяліся розных эпідэмій і хвароб.

працяг ☞ 10





■ Федарукі і Ляшэўскія, Дзятлава, 1947 г.

■ Марыя Ляшэўская з сынамі Леанідам і Уладзімірам, 1965 г.



■ Ляшэўскія. У першым радзе сядзіць справа Ефрасіння Ляшэўская, пачатак 1950-х гг.



■ Фотаздымак Ляшэўскіх на памяць. Усе разам з дзецьмі і ўнукамі, 1960-я гг.

Прыйшлі аднойчы гітлераўцы да іх на хутар і знайшлі мяса ад парсючка. Гаспадара вывелі на двор і наставілі на яго ствалы аўтаматаў. Жонка Ляшэўскага, Ефрасіння, кінулася афіцэру пад ногі, а дзеці выбеглі на ганак. Афіцэр глянуў на ўсіх і загадаў салдатам не страляць. Жанчыну стукнуў ботам у твар і папярэдзіў, што калі яшчэ раз яны не будуць выконваць нямецкіх загадаў, то расстраляюць усіх.

Вайну сям'я Ляшэўскіх на хутары перажыла цяжка. На шкарлятыну захварэў самы малодшы сын Коля. Бацька запрог каня і павёз яго ў Беласток. У той час праз Нарву каля хутара быў вялікі мост, па якім ваенную тэхніку перапраўлялі немцы. Але немцы не пусцілі Ляшэўскіх праз мост, які моцна ахоўваўся. Коля памёр, яму было тры гады. Аксенцій Ляшэўскі пахаваў яго каля першай жонкі Марыі, з якой пражыў 12 гадоў, але дзяцей у іх не было. Жылі яны ў вёсцы Рыбалы. Гэта была радзіма першай жонкі. У Аксенція Ляшэўскага было яшчэ два браты і тры сястры: Рыгор і Кузьма, Ульяна, Крысціна і Анісся.

Хоць і цяжка жылося беларускай сям'і падчас вайны, але неяк трымаліся. Мелі сваю гаспадарку, агарод, побач рака. Сам гаспадар быў адметным рыбаком. Рыбу лавіў нават рукамі. Ведаў пра рыбалку ўсё, бо меў вялікі вопыт. Справа ў тым, што Аксенцій Ляшэўскі шэсць гадоў праслужыў на Балтыйскім моры на караблі „Слава”.

Адразу пасля вайны рускія агітатары-вайскоўцы сталі агітаваць беларусаў Беласточчыны на пераезд, абяцалі, як успамінае Лідзія Ляшэўская, светлае жыццё, добрую працу, уласную зямлю. Адначасова пасля вайны хадзілі банды рабаўнікоў, пагражалі, выганялі, адным словам — усяго хапала. „Хто быў першым ініцыятарам пераезду — сёння цяжка сказаць, бо мы былі яшчэ малыя. Мама мне казала, што першым паехаў брат бацькі Рыгор Ляшэўскі, а потым паехалі і мы за ім”, — успамінае Лідзія Ляшэўская.

Сям'я Аксенція Ляшэўскага пагрузіла ў Беластоку ў вагон цягніка ўсю сваю хатнюю маёмасць — ад іголкі да каровы — і паехалі ўсе на ўсход Беларусі. Спачатку агітатары казалі, што вязуць у Гомель, а прывезлі ў мястэчка Дараганава Бабруйскай вобласці (цяпер вёска Дараганава Асіповіцкага раёна). Пераехалі ў розныя раёны і сем'і Рыгора і Кузьмы Ляшэўскіх. А сем'і іх сясцёр засталіся ў Польшчы.

працяг ☞ 11




Цягам апошніх дзесяцігоддзяў пытанні захавання прыроды выйшлі хіба на першае месца. Прычына ў тым, што індустрыя сярэдзіны XX стагоддзя нанесла значны ўрон экалогіі. Дзякуючы наступіўшай зараз постындустрыяльнай эпосе, прырода, перш за ўсё ў Еўропе, уздыхнула з палёгкай. Разнастайным жывёлам і раслінам пагроз зараз значна меней, чым некалькі дзясяткаў гадоў таму.

Намаганні „зялёных”, якія цяпер сталі даволі значнай палітычнай сілай у шэрагу краін, мелі наступствы і там, дзе яны асаблівай вагі ніколі не мелі і не маюць. Напрыклад, у той жа Беларусі да прыроды сталі ставіцца больш паважліва. Адным са сведчанняў чаго ёсць адмысловы Музей прыроды і экалогіі, сайт якога месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://pryroda.histmuseum.by.

Паколькі дадзены музей з'яўляецца філіялам Нацыянальнага гістарычнага музея, то яго сайт мае аднолькавую з іншымі філіяламі, пра якія ўжо пісала „Ніва”, будову. Уверсе знаходзяцца фотаздымкі экспазіцыі, выйсці на рубрыкі, а галоўная старонка мае тры падзелы, дзе мусяць апісвацца сталыя экспазіцыі, часовыя выставы і фондавыя калекцыі.

„Экспазіцыя музея прысвечана прыродзе і экалогіі Рэспублікі Беларусь. Галоўнай мэтай музея з'яўляецца папулярызацыя навуковых і экалагічных ведаў, фарміраванне беражлівых адносін да прыроды. Прыцягваючы ўвагу грамадскасці да праблем навакольнага асяроддзя, мы падвышаем экалагічную культуру наведвальнікаў музея, актывізуем цікавасць да пытанняў аховы прыроды і захавання біялагічнай разнастайнасці Беларусі”, — адзначаецца на галоўнай старонцы.

Пра гісторыю музея добра распавядаецца на старонцы „Пра музей”. Адсюль мы даведаемся, што, нягледзячы на пастанову аб стварэнні музея яшчэ за савецкім часам — у 1983 годзе, зрухі ў гэтым накірунку пачаліся толькі з моманту набыцця Беларуссю незалежнасці. І калі напачатку дзейнасці фондавыя калекцыі музея налічвалі не больш за 20 тысяч адзінак захоўвання, то апошнім часам філіял мае тры выставачныя пляцоўкі, а яго фондавыя калекцыі змяшчаюць больш за 42 тысячы адзінак.

Сталая экспазіцыя музея прысвечана прыродзе і біяразнастайнасці Беларусі. Яе асноўныя тэмы — феналогія, гідралогія, экасістэма лясоў, балот, рэк і азёр, ахова прыроды. Каб яе пабачыць, супрацоўнікі музея распрацавалі і праводзяць тэматычныя экскурсіі для аўдыторыі ўсіх узростаў. На сайце прадстаўлены такія экскурсіі з назвамі: „Сезонныя змены ў жывёльным свеце”, „Водныя і калявадныя расліны і жывёлы”, „Насельнікі лясоў і балот”, „Рэдкія віды флоры і фаўны. Ахоўныя тэрыторыі”.

Часовыя выставы прадстаўляюць экспазіцыі розных насякомых, птушак, паўзуноў. А вось у „Фондавых калекцыях” цікаўны карыстальнік мае магчымасць паглядзець на адну з васьмі распаўсюджаных на беларускіх землях жывёлін, а таксама прачытаць тэкст пра яе.

Прыемна, што музей вядзе адукацыйную працу. Пра яе больш падрабязна распавядаецца на адпаведнай старонцы „Адукацыя”. Так, музейныя супрацоўнікі ладзяць выязныя заняткі ў школах, праўда, толькі ў Мінску. Пералік тэматыкі заняткаў даволі вялікі і закранае як далёкія геалагічныя эпохі, так і сучасных насельнікаў беларускіх палёў, лясоў і вод.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

**Дата з Календара**

**Падзеі і асобы БНР**

# 100 гадоў з часу выдання граматыкі Браніслава Тарашкевіча

У сярэдзіне лета бягучага года спаўняецца роўна 100 гадоў з дня выдання ў Вільні „Беларускай граматыкі для школ” Браніслава Тарашкевіча. Гэта была надзвычай важная вяха ў гісторыі развіцця і навуковага афармлення беларускай мовы.

Школьную граматыку беларускай мовы Браніслаў Тарашкевіч апрацоўваў два гады і надрукаваў яе ў паралельных кірылічным і лацінскім варыянтах. Граматыка некалькі разоў перавыдавалася ў Заходняй Беларусі, апошняе пятае выданне пабачыла свет у 1929 годзе. Гэтая граматыка ляжала ў аснове праграм выкладання беларускай мовы ў БССР. Менавіта яна стала першай жыццяздольнай граматыкай сучаснай беларускай мовы, асновай усіх далейшых ліній развіцця беларускай граматыкі.

У аснове граматыкі Тарашкевіча ляжалі фанетыка-граматычныя асаблівасці тагачаснага сярэднебеларускага дыялекту, найперш „цвёрдае р” і „моцнае аканне”. У правілах граматыкі выкарыстоўваліся як марфалагічны (пераважна), так і фанетычны прынцыпы. Словы іншамоўнага паходжання навукоўцам вылучаліся ў асобную групу. Тарашкевічам было прапанавана пісаць галосныя і зычныя ў іншамоўнай лексіцы так, як яны вымаўляліся ў мове, з якой былі запазычаныя, фактычна было прынятае пераважнае іх напісанне як у польскай мове. Так, на гэтыя словы не былі распаўсюджаныя правілы акання, дзекання і цекання, часта не змякчаліся зычныя перад галоснымі, перад ётаванымі галоснымі перадаваўся мяккі [л'].

Шмат якія правілы ў граматыцы адсутнічалі або былі недапрацаванымі, напрыклад, нарматывы напісання складаных слоў, некаторых канчаткаў, прозвішчаў, імёнаў, геаграфічных назваў, і дапрацоўваліся іншымі аўтарамі ў практычна выкладаных граматыках. Зважаючы на недахопы граматыкі Тарашкевіча, браты Лёсікі распрацавалі праект яе рэформы, што быў прадметам разгляду Беларускай акадэмічнай канферэнцыі, якая прайшла ў 1926 годзе.

Навуковы дапаможнік Тарашкевіча ўлічваў тагачасныя дасягненні ў галіне беларускай філалогіі, напрацоўкі такіх вучоных як Яўхім Карскі, Аляксей Шахматаў ды іншых, ён быў пераважна станоўча прыняты грамадскасцю.

Аднак у практычнай працы і ва ўмовах масавай беларусізацыі граматыка выклікала пэўныя цяжкасці з-за сваёй агульнай складанасці і пэўных унутраных недахопаў; некаторыя фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці не атрымалі ў кнізе належнага асвятлення; напісанне іншамоўнай лексікі працягвала складаць цяжкасці; некаторыя правілы былі штучнымі і надуманымі, у граматыку быў уведзены шэраг архаічных граматычных форм як літаратурныя. „Расейскі і польскі ўплывы” (адпаведна ў марфалогіі і арфаграфіі) адзначалі ў сваіх тагачасных публікацыях такія вядомыя беларускія навукоўцы як Язэп Лёсік і Ян Станкевіч.

Граматыка Браніслава Тарашкевіча пашыралася не толькі ў Заходняй Беларусі, але таксама ва Усходняй менавіта дзякуючы таму, што асабліва напачатку Язэп Лёсік, які апрацоўваў свае граматыкі, таксама арыентаваўся на граматыку Тарашкевіча. Можна сказаць, што ёй карысталіся вучні ў школах усёй Беларусі, а таксама тыя, хто вывучаў мову або рэдагаваў свае тэксты, абапіраючыся на тыя правілы і прынцыпы, якія выпрацаваў Тарашкевіч.

Праца Браніслава Тарашкевіча стала вялізным унёскам у развіццё беларускай мовы, яна мела яскравы антыкамуністычны і нацыянальна-асветніцкі характар, заклала падмурак для далейшага развіцця мовы і яе дасканалення.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

У вёсцы Дараганава сям'я Аксенція Ляшэўскага жыла на вуліцы Рачной. Побач працякала рэчка Пціч. Гаспадар і там лавіў рыбу, а таксама шмат працаваў на зямлі. У Дараганаве яны пражылі адзін год, а потым пераехалі ў Дзятлава. Маўляў, бліжэй мяжа, бліжэй Беласточчыны, а раптам нешта зменіцца і ўсе зноў вернуцца ў родныя мясціны.

„Цікава яшчэ тое, што хто свае хаты і хлявы аддавалі ў Польшчы, атрымлівалі ў Беларусі бясплатнае жыллё. Бацька наш хутар прадаў, таму ў Беларусі прыйшлося купляць жыллё. Але яно было горшае, чым у Польшчы. І пражыў ён у Дзятлаве ўсяго два гады. Памёр у 1949 годзе. І мама засталася адна з трыма дзецьмі — 11, 14 і 15 гадоў з пазыкай у Дзяржбанку", — прыгадвае спадарыня Лілія Ляшэўская. Атрымалася так, што пачалі ствараць калгасы і ўсіх сілай застаўлялі аддаваць у калгас коней (у каго яны былі). Забіралі коней разам з вазамі, хамутамі і лейцамі. А Аксенцій Ляшэўскі ў той час ужо працаваў у арцелі „Прагрэс" на Дзятлаўшчыне вартаўніком. І яго папярэдзілі: калі не аддасі ў калгас каня, то не будзеш працаваць у арцелі і застанешся без заробку. Каня прыйшлося аддаць. А жонка Ляшэўскага пайшла працаваць у калгас за працадні. Каня не было, а чым тады апрацоўваць зямлю? Вырашылі ў дзяржавы ўзяць пазыку, каб купіць сабе ўласнага каня. І тут раптам памірае гаспадар. І ўзнікла вялікая праблема: чым плаціць пазыку. Таму прадалі карову і пагасілі пазыку. Але сям'я пачала галадаць. Дзякаваць сыну брата Кузьмы, Івану Ляшэўскаму, які дапамагаў і неяк выжылі.

Ефрасіння Ляшэўская пайшла працаваць у калгас. А потым кінула калгас і глядзела дзяцей, пенсію ёй не налічылі, бо не было стажу. Толькі ў 1990 годзе ёй прызначылі пенсію, як інваліду другой групы. Жанчыне было 86 гадоў. А пражыла яна — 92 гады...

Лідзія Ляшэўская прыгадала яшчэ сваіх землякоў, якія ў 1946-1947 гадах прыехалі на Дзятлаўшчыну. Асабліва тых, хто жыў у Дзятлаве. На Савецкай вуліцы жылі рэпатрыянты Казакевічы (9 дзяцей было) і Тафілюкі (6 дзяцей было). З Войшкаў родам Тарасюкі (3 дзяцей). На вуліцы Ленінская ў Дзятлаве жылі Лебядзінскія (2 дзяцей) і Агата Лук'янюк. Яе сын Іван застаўся ў Польшчы. З вёскі Заячкі перасяліліся ў Дзятлава Дземенчукі (2 дзяцей) жылі на вуліцы Чапаева. На гэтай жа вуліцы пасяліліся і жылі Пятроўскія (3 дзяцей). Сям'я Лабасюкоў (4 дзяцей) спынілася на вуліцы Слонімскай у Дзятлаве. Блашчынскія (4 дзяцей) — на Ленінскай вуліцы. Герасімюкі (5 дзяцей) таксама жылі на Ленінскай вуліцы. Конюхі (2 дзяцей) — на Савецкай вуліцы. Несцярэўскія (Шайноўскія) (3 дзяцей) — на Кастрычніцкай вуліцы, Капцеўскія (2 дзяцей) — таксама на Кастрычніцкай, Калодкі (3 дзяцей) — на вуліцы Фрунзе...

Дарэчы, усе перасяленцы-беларусы з Беласточчыны, якія ў 1940-х гадах пераехалі на Дзятлаўшчыну, жылі вельмі дружна, як сваякі, як самыя родныя і блізкія людзі. І тыя, хто сёння там пражывае, вельмі парадніліся і працягваюць жыць адной дружнай сям'ёй, дапамагаючы вырашаць самыя складаныя і няпростыя жыццёвыя праблемы і задачы. А калі святы — то збіраюцца разам за адным сталом. І заўсёды старэйшыя людзі прыгадваюць родную Беластоцкую зямлю.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Фотаздымкі друкуюцца ўпершыню.

**Віктар ШВЕД**

## Дарагому Другу Міхасю Хмялеўскаму!

Міхась, дабрэйшы чалавек,
З усімі жыў заўсёды ў згодзе.
У пажылы ўвайшлі мы век,
Які шануецца ў народзе.

Сям'я перажывае боль
Па смерці свайго сына, брата.
Спачуванні прыняць дазволь
Па такіх сямейных стратах.

А нам прыйшлося дажываць
Свой век у розных болях, муках.
Чаго тады нам пажадаць?
Здароўечка шмат, без прынукі.

**Беласток,
26 чэрвеня 2018 года.**

## „Купальночка" ў Нараўцы

У суботу, 7 ліпеня гэтага года ў Нараўцы Гайнаўскага павета адбудзецца Ноч Купалы. У праграме — а гадзіне 19:30 карагод фальклорных калектываў з Гміннага асяродка культуры да амфітэатра над ціхаплыннай ракой Нараўкай, а пасля канцэрт калектываў „Ас" і „Мікрон" з Беластока, „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, „Нараўчанкі" з Нараўкі, „Арт-Пронар" з Нарвы ды „Міхалавіца" са Свіслачы і зорка вечара — Музычны тэатр „Рада" (Рэспубліка Беларусь), Тэатр агню, пусканне вянкоў на рэчцы і феерверкі. Пасля поўначы танцавальная забава з музычным калектывам „Твістэр".

Пачатак мерапрыемства а гадзіне 19:50 у амфітэатры.

## Беларускі фэст у Бандарах

14 ліпеня гэтага года ў Бандарах Міхалоўскай гміны Беластоцкага павета адбудзецца беларускі фэст. У праграме тэатральны спектакль у выкананні падапечных Дома сацыяльнай дапамогі ў Гарбарах (пачатак а гадзіне 16-й), затым пасля гадзіны 17-й выступы мастацкіх калектываў „Чырвоныя шпількі" і „Фенікс" з Міхалова, „Оморфос" з Сямятыч, „Асеннi ліст" з Гарадка, „Вэгас" з Беластока, „Чыжавяне" з Чыжоў, „Рассыпаны Гарадок" з Гарадка і „Купалінка" з Мінска (Рэспубліка Беларусь). Ад гадзіны 20-й пачнецца танцавальная забава пад гукі беластоцкага гурта „Вэгас".

Падчас фэсту можна будзе пацікавіцца, між іншым, рукадзеллем народных майстроў з Міхалова і Плянты (Нараўчанскай гміны), беларускімі кніжкамі і кружэлкамі з запісамі беларускіх песень і не толькі беларускіх. **(яц)**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. крэпасць бюракрата = 28 _ 18 _ 4 _ 5 _;
2. праваднік, даведнік = 3 _ 13 _ 14 _;
3. тупы, неразумны чалавек = 22 _ 15 _ 26 _ 24 _ 12 _ 20 _;
4. астатак ссечанага дрэва ў... аленьцы = 23 _ 36 _ 35 _ 39 _;
5. набег рухомых ваенных сіл у тыл праціўніка = 16 _ 17 _ 8 _ 9 _;
6. дзікі бык у бельскім гербе = 25 _ 10 _ 11 _;
7. паслухмянае дзіця = 38 _ 21 _ 19 _ 7 _;
8. галоўны горад правінцыі Фарс у Іране = 6 _ 29 _ 30 _ 31 _ 32 _;
9. аўстралійская нялётная птушка = 27 _ 34 _ 33 _;
10. здраднік, прадажнік = 37 _ 2 _ 1 _.

(ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | | | | | | |
| | | | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | | | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | 21 | 22 | | | | | | | |
| | | | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 24 нумара**

Люлька, цешча, набожнасць, Ева, пак, ар, Ушачы, брыво, маланка, дзіця, пяць.

Рашэнне: **На балючае вока парушына ляціць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

## 08.07 — 14.07

**(22.03. — 20.04.)** Нагоды і мілыя неспадзеўкі. 8-10.07 трымайся далёка ад азарту. 10-14.07., калі яшчэ жывеш з бацькамі, будзеш мець добрую нагоду расстацца з імі і пайсці на сваё. 12-14.07. можаш моцна памыліцца наконт новапазнанай асобы. Дойдзеш да мэты, але шлях будзе ашчацінены перашкодамі. Адпачывай актыўна.

**(21.04. — 21.05.)** Энергія, прадпрымальнасць, вынаходлівасць. Час актыўных выклікаў. Твая кар'ера набярэ румянцу. Вядзе цябе нос да інтарэсаў. З 12.07. можаш зрабіць важныя прыёмы і карысна інвеставаць. Але 8-10.07. могуць не ўдацца твае канікулярныя планы.

**(22.05. — 22.06.)** Лёгкія хуткія рашэнні. 8-10.07. проста засыпле цябе плён тваёй працы і стараннаяў на розных нівах. 12-14.07. лёгка аформіш спрэчныя справы, асабліва маёмасныя з далейшай і бліжэйшай сям'ёй. Пасля 10.07. магчымая нервовасць у пастаяннай пары. Але засвеціць сонца!

**(23.06. — 23.07.)** Зрэалізуеш свае задумы і прафесійныя амбіцыі. Можаш разлічваць на павышэнне і значна большыя заробкі. 8-10.07. многа эстэтычных захапленняў і сардэчных хваляванняў. Прыліў творчых сіл. Але і 8-10.07. твой план можа легчы ў руіне! 10-14.07. магчымае сардэчнае захапленне, але можа яно аказацца так моцным, як і фатальным. Не падпадзі цяпер шэфу, каб не палічыў ён, што замоцна хочаш кіраваць фірмай.

**(24.07. — 23.08.)** Сонца намаўляе цябе да адпачынку. Не здраджвай сваіх планаў, а ўдасца табе іх зрэалізаваць. Не хваліся тым, што зрабіў і тым, што зробіш. 11-14.07. нахлыне на цябе ахвота, каб павыкідваць увесь хлам і шпаргалкі. Хадзі на фармальныя сустрэчы. 12-14.07. не падпісвай ніякіх дамоваў. Захоўвай бяспеку.

**(24.08. — 23.09.)** Моцна будзеш трымаць руль, а добрая арганізацыя паможа зрабіць больш, чым намерваўся. У пачуццях новы раздзел. Будзеш поўны бляску і прыцягальнасці. 8-10.07 нейкая назойлівая каляжанка ці суседка можа ўлазіць у твае справы, не ўваходзь з ёю ў дыскусіі. 10-15.07. можаш сустрэць кагосьці, хто для цябе створаны. А з 12.07 (да 16.07.) акажацца, што апрача захаплення, можаце на сябе разлічваць. 11-13.07. хтосьці схоча табой маніпуляваць.

**(24.09. — 23.10.)** Дзякуючы энергіі і паслядоўнасці ўзмоцніш сваю пазіцыю на працы. Шэф дасць табе спецыяльную місію. 12-16.07. карысныя інвестыцыі або пакупкі. Натужлівая праца. Дбай аб тое, што аб табе скажуць. Прыдасца табе ўмеласць хуткага выхаду з крызісных сітуацый 10-14.07. 12-16.07. будзь памяркоўным — твой аўтарытэт узрасце.

**(24.10. — 22.11.)** Не будзеш наракаць на недахоп кампанейскіх прапаноў, хаця больш схочацца табе пабыць у адзіноце. 8-10.07. будзеш уражлівы на патрэбы іншых, ахвотна паможаш. Маеш вялікія палёгкі ад зорак! Чакаюць цябе поспехі. Паставіш з гумарам кропку над «і». 12-16.07. узмоцняцца лады з партнёрам. А сінгла захопіць хтосьці спакойны. 10-15.07. магчымы канфлікт з далейшай сям'ёй. Лепш адмоўся ад кавы і алкаголю.

**(23.11. — 22.12.)** Раз на возе, раз пад возам. Меншыя і большыя поспехі будуць пераплятацца з дробнымі няўдачамі. Лёгка не будзе. Але някепска з падарожжамі, цікавай і добрай кампаніяй. Але не зрабі памылкі. 8-10. 07. чакае цябе новы прафесійны выклік, звязаны з абучэннем, курсамі, вывучэннем моў. Прыбыткі цяпер крыху меншыя. Ты цяпер стомлены, дык вазьмі вольныя дні, адпачні.

**(23.12. — 20.01.)** Працягвай пачатыя праекты, шукай нагод для здабывання ведаў. Прызнанне сярод супрацоўнікаў. Сітуацыя на працы стабільная і бяспечная, але можаш разглядацца за больш пэўным заняткам. Нагода да праверкі новых ведаў. Краса і вялікае шчасце да грошай. Ад 10.07. нагода зарабіць сапраўды вялікія грошы і карысна іх заінвеставаць. 10-14.07. спрабуй шчасця — абавязкова зайграй у латарэю! Цяпер ты няздольны да кампрамісаў. 12-14.07. не спускай партнёра са сваіх вачэй.

**(21.01. — 19.02.)** 8-12.07. могуць чакаць цябе праблемы ў адміністрацыі і ва ўстановах. 10-14.07. усвядоміш, колькі можаш здабыць. Марс у тваім знаку гэта невычэрпная крыніца энергіі, але і канфліктаў. Будзеш досыць цяжкі ў супрацоўніцтве. Лёгка будзеш наладжваць новыя кантакты. На працы дасягнеш шмат, але будзь гатовы на новыя выклікі. Прыдаўся б табе салідны трэнінг.

**(20.02. — 21.03.)** Моцна і трапна спрацуе твая інтуіцыя, асабліва 8-10.07.; добры нос да інвестыцый. Самотную Рыбу не абміне страла Амура. 10-14.07. хутчэй заб'е тваё сэрца. Але 11-13.07. нечакана твае справы могуць ускладніцца. 12-14.07. трэба будзе каханую асобу папрасіць: «Прабач». Сувязь наладжаная з 12.07. (да 18.07.) будзе трывалай. На працы інвестуй.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Рэпатрыяцыя — гісторыя

27 чэрвеня ў Падляшскай ваяводскай управе адбылася канферэнцыя на тэму „Рэпатрыяцыі — гісторыя і сучаснасць". У ліку дакладчыкаў быў прафесар Яўген Мірановіч, які агульна расказаў пра міграцыі, асабліва польска-беларускія.


Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Рэпатрыяцыя пасля Першай сусветнай вайны, гэта тэма не менш буйная, чым рэпатрыяцыя пасля Другой сусветнай вайны. Хаця акалічнасці вяртання былі падобныя. Заўсёды вайна выклікае так вялікія складанасці, якія пасля цягам доўгіх-доўгіх гадоў трэба выпраўляць. Калі гаварыць пра рэпатрыяцыю ў Польшчу пасля Першай сусветнай вайны, то ў меншым маштабе адбывалася яна з Захаду, а ў большым — з Усходу. З Захаду быў гэта вынік перамяшчэнняў польскага насельніцтва ў Заходнюю Еўропу і ЗША ў XIX і ў пачатку XX стагоддзя. І калі паўставала польская дзяржава, то шматлікія людзі, па розных прычынах, найчасцей на патрыятычны кліч і з надзеяй на нейкую дзяржаўную ці палітычную кар'еру, спяшалі ў краіну, якую яны або іх продкі пакінулі раней. У шматлікіх палітычных дзеячаў II Рэчы Паспалітай у біяграфіях многіх была запісана шматгадовая пабыўка на Захадзе. Варта таксама помніць, калі згадваем пра рэпатрыяцыю з заходняга напрамку, што паўмільёна палякаў служыла ў аўстрыйскай і прускай арміях. Для некаторых вайна скончылася недзе пад французскай граніцай.

Больш аб'ёмісты напрамак міграцыі быў з усходняга напрамку. У прынцыпе прадпасылкі для вяртання паявіліся яшчэ ў час ваенных дзеянняў. Найважнейшая хваля міграцыі насельніцтва, якая не так дабравольна, як пад адміністрацыйным мусам выбыла з памежных рэгіёнаў пазнейшай II Рэчы Паспалітай у 1915 годзе, калі заламаўся расійска-нямецкі фронт, расійскія ўлады рашылі правесці вялікамаштабную эвакуацыю прамысловых аб'ектаў і насельніцтва. Пра гэта вырашыў расійскі досвед з пачатку XVIII стагоддзя, часу шведскіх войнаў ці войнаў з Францыяй пачатку XIX стагоддзя, дзе тактыка спаленай зямлі прыносіла станоўчыя вынікі. А калі ў XX стагоддзі працавала чыгунка, тактыка спаленай зямлі была бессэнсоўнай. Аднак расійскія ўлады рашыліся на эвакуацыю прамысловасці з тэрыторыі Кангрэсавага Каралеўства разам з персаналам. Кранала гэта прыблізна каля паўмільёна асоб з Каралеўства. Калі фронт адступаў на ўсход, было прынята рашэнне эвакуіраваць усё насельніцтва і пакінуць немцам фактычна спаленую зямлю. Датычыла гэта галоўным чынам праваслаўнага насельніцтва Холмскай і Гродзенскай губерняў. І сапраўды, амаль усё праваслаўнае насельніцтва было прымушана эміграваць на Усход.

У нашым рэгіянальным маштабе, вызначаным арыенцірамі Гродна — Вільня — Беласток, эвакуіравалася паўтара мільёна людзей. З гэтага ліку амаль паўмільёна не перажыло вайны. Вяртанне ў Польшчу розных асоб з розных асяроддзяў доўжылася прыблізна да 1923 года. Акалічнасцямі, якія выклікалі зваротную эміграцыю, былі падзеі ў Расіі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Людзі, якія пакінулі ўспаміны з таго часу, адназначна сцвярджалі, што ў Расіі пасля 1917 года стала немагчыма жыць і трэба было ўцякаць будучы свядомымі, што на землях, якія пакінулі ў 1915 годзе, засталіся адно папялішчы. Адступаючая расійская армія паліла цэлыя мясцовасці, адкуль выязджала насельніцтва. Гэтыя міграцыі на польска-савецкай граніцы доўжыліся ўсё дваццацігоддзе. Адны, з камуністычным светапоглядам, уцякалі на Усход, іншыя намагаліся дастацца ў Польшчу. Аднак маштаб тых міграцый не быў вялікі і закрануў не больш дваццаці тысяч людзей. Затое непасрэдна пасля Першай сусветнай вайны, у 1917-1923 гг., міграцыя кранала мільёны. Таксама палякі, якіх калісь вывозілі ўглыб Расіі разам з заводамі, у якіх працавалі, тых, што служылі ў царскай адміністрацыі, а таксама сялянскае насельніцтва, выселенае насільна ў жніўні 1915 года. Гэта быў найбольшы міграцыйны паток з Усходу, які спыніўся ў першай палове 1920-х гадоў.

Затое перамяшчэнні насельніцтва пасля Другой сусветнай вайны былі вынікам пастаноў, прынятых спярша на канферэнцыі ў Тэгеране; там былі прыняты найважнейшыя пастановы пра вялікія перамяшчэнні насельніцтва, якія краналі і тэрыторыю Польшчы. Першай была пастанова высялення нямецкага насельніцтва з тых тэрыторый, якія планаваліся далучыць да польскай дзяржавы пасля заканчэння вайны. А ў другую чаргу было пастаноўлена таксама перасяліць польскае насельніцтва з абшараў, якія мелі ўвайсці ў склад Савецкага Саюза, а беларускае, украінскае і літоўскае насельніцтва перасяліць у адпаведныя рэспублікі СССР. Такая ідэя ўзнікла яшчэ ў ходзе вайны, у канцы 1943 года, на канферэнцыі ў Тэгеране; у Ялце па сутнасці то ўжо былі дапрацаваны дэталі. Пакуль дайшло да Ялцінскай канферэнцыі, то Чырвоная Армія была ўжо ў межах Польшчы і 9-11 верасня пачаргова асяродак улады, які дабіваўся звання першага польскага ўрада, Польскі камітэт нацыянальнага вызвалення, падпісаў адпаведныя дамовы аб перасяленнях з урадамі Літоўскай, Беларускай і Украінскай рэспублік. Дамовы пра перасяленне насельніцтва з кожнай з гэтых рэспублік былі падобныя, аднак іх рэалізацыя была розная. Было гэта вынікам досведу Другой сусветнай вайны, польска-літоўскіх, польска-беларускіх і польска-ўкраінскіх адносін. Вядома, што найбольш складанае было польска-ўкраінскае памежжа, таму не трэба было спецыяльна заахвочваць польскага насельніцтва Валыні да перасялення. Падобна было з украінскім насельніцтвам, пражываючым у Польшчы. З захаваных архіўных дакументаў выцякае адна выснова: украінцаў у Польшчы мела не быць; гэтае перакананне было ад гмінната па цэнтральны ранг улады. І гэта было паслядоўна рэалізавана.

Больш складанае было перасяленне з Беларусі ў Польшчу і з Польшчы ў Беларусь. У выпадку Беларусі, калі стала вядома як будзе пралягаць граніца, першым імпульсам палякаў было заяўленне ахвоты выезду ў Польшчу. І ў 1944 годзе такія дэкларацыі падпісала 195 тысяч асоб, пражываючых у БССР. Першымі такія дэкларацыі падпісвалі тыя грамадзяне РП, якія апынуліся на ўсходзе Беларусі, якія да вайны пражывалі ва ўсходніх ваяводствах Рэчы Паспалітай, але ў выніку розных ваенных лёсаў апынуліся на ўсходзе. Яны не былі ў сябе, і калі паявілася магчымасць эміграцыі ў Польшчу, то яны першымі заявіліся на выезд; было іх не больш дзесяці тысяч. Пасля Ялцінскай канферэнцыі, калі стала ясна, што няма ніякай надзеі на захаванне даваенных граніц РП, тады польскія грамадскасці пачалі такую акцыю з перакананнем, што калі ўсе запішуцца, соткі тысяч палякаў, калі пакажуць, што дамінуюць у заходняй частцы БССР, то вялікія дзяржавы перадумаюць свае першапачатковыя планы і нейк удасца ўсё адмяніць. Таму ў касцёлах, па сутнасці ў час кожнай імшы, вялася агітацыя запісваца ў спіскі выязджаючых, падказваючы, што гэта не абазначае выезду, толькі трэба задэклараваць, ствараць статыстыку, якая пераканала б усе вырашаючыя вярхі адступіцца ад пастаноў аб граніцах. Найменшы энтузіязм запісвацца быў на Гарадзеншчыне з перакананнем, што граніцы не будуць зменены, бо ў некаторых рэгіёнах Гродзеншчыны дамінавала польскае насельніцтва. У выніку добра сарганізаванай акцыі да канца 1945 года на выезд запісалася 390 тысяч асоб, а да чэрвеня 1946 года, калі былі сабраны дэкларацыі, было 535 тысяч асоб. Гэтая статыстыка мела пераканаць, асабліва альянтаў, адступіць ад прынятага рашэння ў справе граніц. Гэта нічога не дало.

А рэпатрыяцыя пачалася ўжо ў 1944 годзе, а найбольш інтэнсіўна праходзіла ў другой палове 1945 года і ў першай палове 1946 года. У 1945 годзе, калі савецкія ўлады спахапіліся, што не будзе дэмаграфічнай кампенсацыі адтоку палякаў з Беларусі беларусамі з Польшчы, тады сталі гвалтоўна затармажваць працэс рэпатрыяцыі палякаў з Беларусі ў Польшчу. Савецкія ўлады палічылі, што найбольш верагодным перапісам насельніцтва з'яўляецца царскі перапіс 1897 года. З таго вынікала, што палякаў у межах Беларусі было тады каля 400 тысяч. У царскім перапісе было пытанне пра мову, дзе большасць католікаў Сакольскага, Бельскага і Беластоцкага паветаў падала, што карыстаецца беларускай мовай. Але гэта не абазначала іх беларускай тоеснасці. У час Другой сусветнай вайны ў католікаў пражываючых на тым абшары адназначна ўгрунтавалася польская нацыянальная свядомасць. Таму ў жніўні 1944 года, калі Чырвоная Армія спынілася на лініі Віслы, адкамандзіравала яна з фронту каля соткі палітычных афіцэраў, прызначаючы ім салдат ды 120 самаходаў каб яны зарыентаваліся якая ў сапраўднасці там нацыянальная структура. І бадай найбольш верагоднае апісанне было выканана менавіта між жніўнем і лістападам 1944 года. І атрымалася, што з Польшчы можна разлічваць на вываз у БССР каля 144 тысяч беларусаў, праваслаўных. Такая прапорцыя — тут 140 тысяч, а там 530 тысяч; і страты былі б занадта вялікія. Таму ў выніку перапіскі між Цанавай і Берыяй было прынята рашэнне нейк затармазіць такое перамяшчэнне. Бо Беларусь зруйнаваная, паўтара мільёна людзей загінула, а нехта ж павінен адбудоўваць. І ў палове 1945 года было прынята рашэнне абмежаваць тую рэпатрыяцыю, якая афіцыйна доўжылася да паловы 1946 года. Пісалі, што рэпатрыяцыя дабравольная, што кожны можа выехаць, аднак былі запушчаны такія дзеянні, якія ў прынцыпе прыпынілі выезд польскага насельніцтва з Беларусі. У першую чаргу ўлады абяцалі, што ніякай калектывізацыі не будзе, што не будзе забрана сялянская спадчына; тады — навошта ж выязджаць... І запрапанавана было палякам задэклараваць адмову ад выезду ў Польшчу — 265 тысяч людзей падпісала такую адмову — тых, якія раней дэкларавалі ахвоту выехаць. Чарговым бар'ерам было патрабаванне пасведчыць польскую нацыянальнасць, напрыклад касцельнымі метрыкамі; у многіх людзей ранейшыя дакументы прапалі ў час вайны, а нямецкія акупацыйныя не прымаліся пад увагу. Іншай улоўкай было пытанне пра паўсядзённую мову, а гэтай мовай была беларуская. Таксама актыўнасць свякоў у беларускім нацыянальным руху ставілася зачэпкай у адмове дазволу на выезд з Беларусі. Сарака тысячам асоб адмоўлена, беручы пад увагу беларускую нацыянальнасць.

У сапраўднасці ў ліку падаючых заяўкі на выезд у Польшчу былі і беларусы, якія па розных прычынах хацелі выехаць з СССР; такіх асоб было прыблізна каля 12-14 тысяч. Выязджалі яны як палякі, а пасля аказваліся беларусамі, напрыклад чытачамі „Нівы" з 1956 года. У чэрвені 1945 года ў кожным раёне створаны былі камісіі, якія рашалі, хто з'яўляецца палякам і можа хадайнічаць за выезд. Найчасцей у такіх камісіях былі прадстаўнікі НКВД, якіх меркаванне было ў прынцыпе вырашальным. Галоўнай прычынай, якая спыніла выезд з БССР, было абяцанне не праводзіць калектывізацыі, а другой было свядомае тармажэнне ўладамі выезду дзеля затрымання насельніцтва для адбудовы выпаленай вайною краіны. Да таго ж на паўднёвай Віленшчыне насельніцтва не праяўляла ахвоты перасяляцца, бо адносіны з мясцовым беларускім насельніцтвам не стварала стымулу для гэтага. У час вайны былі праявы польска-беларускага канфлікту, аднак гэта адбывалася на ўзроўні элітаў; гэты канфлікт паглынуў каля тысячы ахвяр, а гэта, у параўнанні з канфліктамі на іншых памежжах, было нямнога. Канфлікт гэты, затое, не кранаў асноўнага насельніцтва і не даваў стымулаў для выездаў

У адваротным напрамку, з Польшчы ў Беларусь, справа і тут была даволі складанай. Калі была запушчана працэдура перасялення ў СССР, то амаль у кожнай хаце паявіліся камісары з абяцаннямі салідная гаспадаркі там, дзе хто захоча; што там чакаюць гатовыя гаспадаркі. Аднак вера людзей у тыя абяцанні была мізэрнай; па-першае — жыло яшчэ пакаленне, якое вярнулася з бежанства часу Першай сусветнай вайны і ўспамінала гэта як вялікі кашмар, калі пасля вяртання трэба было ўсё адбудоўваць. Гэтае пакаленне было вельмі моцным тормазам выездаў. Іншым тормазам была савецкая рэальнасць, з якою людзі пазнаёміліся ў 1939-1941 гадах. Па сутнасці ніхто не ўспамінаў станоўча таго перыяду і вера ў „савецкі рай" была мізэрная. Затое выязджалі тыя, якія адчувалі небяспеку, асабліва з тых мясцовасцей, дзе з 1945 года актыўна дзейнічала польскае падполле. Кранала гэта заходнія гміны Бельскага і Беластоцкага ды Сакольскага паветаў. Выязджалі адтуль не толькі ў СССР, але і на захад, у Польшчу. На выезд у СССР запісалася каля сарака тысяч асоб, выехала каля трыццаці тысяч; з гэтага ліку каля дваццаці тысяч трапіла ў Беларусь, а некаторыя цягнікі спыніліся пад мангольскай граніцай. Каля дзесяці тысяч апынулася ў іншых рэгіёнах СССР і толькі пасля 1956 года з'явілася ў іх магчымасць перасяліцца ў БССР.

Чарговая хваля эміграцыі наступіла пасля 1956 года, калі настала большая свабода перамяшчэння ў межах СССР. Новыя дамовы паміж польскім і савецкім урадамі прычыніліся да таго, што каля двухсот тысяч палякаў з цэлага СССР магла пакарыстаць магчымасцю вяртання. Былі гэта людзі, якія прабывалі ў месцах розных ссылак і пасля розных амністый маглі прыехаць у Польшчу.

Адносна літоўцаў — польскія ўлады разважалі, ці не абысціся з імі як з украінцамі, бо і польска-літоўскія адносіны былі напружаныя. Была задума выселіць літоўцаў на Памор'е...

Запісаў **Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

ISSN 0546-1960 27